
Апошнія сведкі → 3

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


З выцінанкай... → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 25 (3136) Год LXI Беласток, 19 чэрвеня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)




# Не забывайце каранёў!

*Сягоння юбілей у вас*! — адзначаў у адмысловай песні старэйшы спявацкі калектыў Гарадка і Беласточчыны «Рассыпаны Гарадок» на юбілейным бенефісе «Асенняга ліста» (20-годдзе) і капэлы «Хутар» (15-годдзе). У Гмінным цэнтры культуры ў Гарадку ў суботу 4 чэрвеня ўрачыста адсвяткавалі юбілеі гэтых яркіх падляшскіх беларускіх музычных калектываў. Абодва яны сталі маркай беларускай нацыянальнай меншасці не толькі на Гарадоцкай зямлі, але і ва ўсёй Польшчы і нават за мяжой краіны. Падчас бенефісу ўдзельнікі гуртоў прымалі віншаванні і пажаданні ад прадстаўнікоў мясцовых і суседніх улад, дзеячаў культуры і асветы, маладзейшых калег ды шматлюдна сабраных слухачоў. У праграме была мастацкая прэзентацыя няўрымслівых, хоць пасівелых юбіляраў, выступы запрошаных гасцей і калег па творчасці з гміны і калектыву „Верасы" з Вілінава Мельніцкай гміны.

— Яшчэ столькі ж гадоў, а можа і больш, спявайце нам, мы вас любім! — віншаваў усхваляваных дырэктар Гміннага ЦК у Гарадку — Дома культуры імя Кастуся Каліноўскага **Юрка Астапчук**. — Дваццаць гадоў пражыць з песняй, каб гэты калектыў існаваў — гэта вельмі цяжкая праца! Таму яшчэ больш гэты юбілей сёння, бо мы ведаем як гэтыя асобы павінны былі цяжка працаваць, каб дайсці да такой гадавіны.

Лідар капэлы «Хутар» **Янка Карповіч**:

— Каб здароўе толькі, як той казаў, не падвяло. Плануем таксама ўзбагаціць, упрыгожыць выкананне нашых беларускіх песень. Будзем старацца, каб беларуская культура квітнела надалей і ішла ў добрым напрамку.

Калектыў **«Асенні ліст»** узнік быў у кастрычніку 1996 года і неўзабаве меў сваё першае выступленне падчас Гміннага дня сеніёра. Таму што ад пачатку спяваюць у ім перш за ўсё старэйшыя гарадчане. Калектыў дзейнічае пры ГЦК у Гарадку і лічыцца рэпрэзентацыйным гарадоцкім калектывам Гарадоцкага аддзела Польскага саюза пенсіянераў. Назву «Асенні ліст» запрапанавала Яўгіння Матыс, якая стала хросным матулькай калектыву. Яго першым музычным інструктарам стаў Ян Карповіч. У цяперашні час інструктарам калектыву з'яўляецца Генадзь Шэмет, прафесійны музыка — кампазітар і баяніст, выпускнік мінскай кансерваторыі, былы музычны кіраўнік Тэатра імя Якуба Коласа ў Віцебску. Апрацоўвае ён музычныя аранжыроўкі твораў, якія спявае калектыў, скампанаваў таксама яго гімн на словы памерлага ўжо сябра калектыву Уладзіміра Сахарчука. У склад ансамбля цяпер уваходзяць: Лёля (Галена) Бура — кіраўнік, Ірэна Буцько, Зінаіда Харужая, Марыя Госцік, Надзея Лапінская, Ірэна Супрановіч, Вольга Савіцкая, Марыя Сіўкоўская і Міраслава Антановіч. У 2014 годзе ансамбль атрымаў новыя беларускія народныя строі, дзякуючы датацыі міністра адміністрацыі і лічбавізацыі.

— Вельмі дапамагаў нам у нашым выглядзе дырэктар Юрка Хмялеўскі, які заўсёды дбаў, каб мы, як прадстаўнічы калектыў ГЦК, добра прэзентаваліся. Дзякуючы яму маем гожыя боцікі, — тупае ножкай у чырвоным скураным зграбным казачку Міраслава Антановіч, якая кожнай каляжанцы выкавала па беларускім узоры фартушкі на сцэну — кожны іншы. Яна тут спявае дзесяць гадоў. — Намовіла мяне выступаць Лёля Бура, і я доўгі час была наймалодшай спявачкай. Многа асоб тады адыходзіла, былі старэйшыя, засталося было толькі некалькі чалавек. **Лёля Бурова** кажа: «Мірка, прыходзь спяваць». От, можа прыйду, забачу, як буду пасаваць вам... І раз пайшла, другі... Спадабалася. І больш за дзесяць гадоў спяваю разам. А цяпер мы з Лёляй найстарэйшыя! Спяваем песенькі польскія, рускія, беларускія і ўкраінскія, бо ездзілі таксама на фэсты ўкраінскай песні. Генадзь нам песні прапануе, але і самі хто якую песню прынясе, бо спадабалася — тое і вучымся, і спяваем. Я вышывала строі і для «Хутара», а гэтыя фартушкі для сябровак толькі «ўжычыла» на выступленні, і да здымкаў. Фартушкі больш зрабіла як рэкламу, па ўзорніку старадаўніх ручнікоў Аліны Дэмбоўскай. Вышыла кожны іншы, больш за дзесяць іх і кожны мае іншыя брэжкі. Дзісь убачыце!.. А я плануна нават у сябе, у цяперашняй летняй кухні, музейчык зрабіць, з народнымі вырабамі. Вышываю я ад малое... Ой, людкове, як той час хутка прайшоў! Выступаем усюды, не шкадуючы свайго часу. І дажынкі, і купальночкі, і калядкі, і фэсты з фестывалямі...

**Капэла «Хутар»** узнікла ў 2002 г. Раней яе члены выступалі разам з „Асеннім лістом", але вырашылі стварыць асобны вакальна-інструментальны калектыў. Ад пачатку яго музычным кіраўніком з'яўляўся Віктар Леанкевіч. Апрача яго ў капэле ігралі і спявалі: Ірэна і Ян Карповічы, Галіна Радэль, Францішак Апановіч, Вінцэнт Фідзюкевіч і Ян Лісоўскі, зараз з імі яшчэ выступае гітарыст і вакаліст Грышка Карповіч, член таксама іншых беларускіх гуртоў. У сваім рэпертуары капэла „Хутар" найбольш песень мае па-беларуску, спявае таксама па-польску, па-руску і па-ўкраінску. Гурт выступае на ўсіх мерапрыемствах, ладжаных Гмінным цэнтрам культуры ў Гарадку, часта таксама канцэртуе на выездах. Ансамбль узнік на базісе раней існуючых гуртоў «Градзяне» (1971-1982) і „Гарадоцкія калакольчыкі" (1983-2003).

— Гэтыя гурты былі вельмі папулярнымі, — удакладняе **Янка Карповіч**. — Ігралі на фэстах і вечарынах з нагоды дзяржаўных і іншых свят. Пры іх удзеле адбываліся таксама буйныя вясковыя танцы і вяселлі. Ансамблі бралі прыклад з вядомых польскіх біг-бітавых ансамбляў, як «Czerwone Gitary», «Niebiesko-Czarni», «Enigmatic». Ансамбль у цяперашнім складзе выспеўвае «фрывольныя», народныя і бяседныя песні на розных славянскіх мовах. Пятнаццаць гадоў я з «Хутарам», раней таксама, больш за сорак гадоў я тут спяваю... Чалавек старэе, часам голас нікне. Мы цяпер рашылі крыху памаладзець, вярнуцца да тых песень, якія мы па забавах ігралі. Падштурхнула нас, каб зрабіць такі больш вакальна-інструментальны гурт. Не сам вакал пад адзін акардэон, а ўзбагаціць інструментамі. Так дайшла нам мандалінка, акардэон, скрыпка, потым бас-гітара, і бубны! Гэта дае шанц і паслухаць, і патанцаваць пад гэту музыку.

— Але ты пачаў значна раней, як славуты «калакольчык»...

— Я тут некалькі здымкаў маю на выставе, яшчэ з 1973 года, калі я прыйшоў сюды працаваць. Тады мы заснавалі калектыў «Градзяне» — «Гарадчане». Праўда, ігралі на самых гітарах, не было акардэона. Ігралі моднае тады. «Бітлзы», «Чырвоныя гітары», «Но то цо»...

Крыху «Скальдаў», Януша Ляскоўскага, Немэна некалькі песень... Гэтыя ўсе кавалкі ігралі па забавах... А вось Толік Харужы, які грае ў нас на бубнах, меў асобны калектыў. Тады на тэрыторыі Гарадоцкай гміны былі тры калектывы — «Градзяне», «Філіпы» і «Друты». Толік іграў з «Філіпамі». А ў групе Веська Міруця ігралі Юлек Паплаўскі і «Кацялок» (Грэсь). Ад пачатку ў «Хутары» ігралі Вінцук Фідзюкевіч, Янка Лісоўскі і я. Пасля дайшоў Віктар Леанкевіч — наш інструктар. Пасля — Франак Апановіч, Толік Харужы, мая жонка Ірэна. Адна каляжанка, дваюрадная сястра жонкі, Галіна Радэль, адышла ад калектыву, бо муж памёр. Паспехі ёсць. Але больш задавальнення, бо паедзеш, пабудзеш, тым больш што я цяпер на пенсіі.

— Так у жыцці складалася, што чалавек і не падумаў бы, што праз столькі гадоў штосьці паўторыцца. Уваходзіш у дом. Вісіць іконка, а ты ўспомніш, што тут тры дні вяселля было, — усміхаецца бубнач «Хутара» Анатоль Харужы. — А з гэтага дому выводзілі... А тут трэба ўжо неўзабаве адыходзіць... Такое жыццё. Але пакуль усё, трэба нам весела жыць, гуляць. Каб Бог толькі здароўе даў. А мы песняй даем радасць для людзей. Увесь час з людзьмі. Пакуль розум, пакуль на сваіх нагах дасі рады хадзіць, пакуль ты людзям патрэбны — жывеш!

**Лёля Грыка**:

— Увесь час мы з людзьмі. Пачалі былі нас запрашаць на выступленні. А цяпер то і ўжо добра ездзімо! Хутка ўсё так пакацілася. Шмат ужо ад нас адышло. У нас было трыццаць чалавек. Вядома, старэйшыя людзі, то шмат адышло, умерлі.... Найлепей у нас у памяці то фестываль «Беларуская песня». Стараешся, каб найлепш выступіць, вядома, не заўсёды так як хочаш. Ездзілі мы ў Гданьск, на фэст усяякіх культур меншасцей. Былі ў Слоніме — так памятаюцца нашы выступленні. Многа радасці і эмоцый. І самі годзімся, мірымся, і радасна, калі нас слухаюць. Каб добра было. Мы ж людзі ў старэйшым веку, нам жа ж не па дваццаць, мусім якась мірыцца, каб добра было... — Жадаем вам, каб так надалей вы ішлі з песняй па жыцці, бо нішто так не трымае пры жыцці, як песня. Спявайце доўга, цешце нашу гарадоцкую — і не толькі гарадоцкую — публіку! — усхвалявана выступіла **Галена Ляховіч** з «Рассыпанага Гарадка».

— Я заўсёды падкрэсліваю што наша гміна багатая, — прызнаўся войт Веслаў Кулеша. — А нашым найбольшым багаццем з'яўляецца грамадская актыўнасць і культурная дзейнасць. Гэтага нам усе зайздросцяць. Вельмі цешымся, што «Асенні ліст» трымаецца і разам з намі, з Гарадком. Ваш досвед і ангажаванасць у грамадскае жыццё прыгожа перакладаецца на тое, што відаць гэта наша культурнае багацце. Вы наша візітная картка, якая так прыгожа прасоўвае нашу гміну.

— Нізкі паклон вам і глыбокія шчырыя словы ўдзячнасці за тое, што вы робіце, — сказаў віцэ-старшыня Беларуска грамадска-культурнага таварыства **Васіль Сегень**, які апрача букетаў, грамат і віншавальных слоў уручыў калектывам юбілейныя фінансавыя ўзнагароды ад БГКТ. — За вашу любоў да роднай песні, да беларускай роднай культуры. Вы — гонар гэтай зямлі, вы — гонар беларускай меншасці ў Польшчы.

— Дзякую вам за тое, што даяце прыклад нашым наймалодшым! — дзякавала са сцэны дырэктарка гарадоцкай школы, з якой на бенефісе выступіў наймалодшы «нарыбак» гарадоцкіх спевакоў — ансамбль вучняў — дзяўчатак і хлопчыкаў «Казка», які вядуць Марыя Абрамовіч і Кацярына Кокець. Дзякавалі ансамблям і «Рассыпаны Гарадок», і тутэйшы паэт **Анатоль Парэмбскі**, і ўсе шматлюдна сабраныя слухачы, што з берагамі запоўнілі залу аднаўленага дома культуры імя земляка Кастуся Каліноўскага.

Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ





# Гонка ўзбраенняў

Ёсць меркаванне, падмацаванае нават грунтоўнымі разлікамі адмыслоўцаў, у якія тут не будзем удавацца, што Савецкі Саюз разваліўся ў выніку таго, што не вытрымаў гонкі ўзбраенняў. Гаспадарка СССР развівалася выключна экстэнсіўнымі метадамі, а выдаткі на новыя ракеты ўсё раслі. Зншчала эканоміку і дапамога „братэрскім рэжымам" па ўсім свеце — ад афрыканскіх канібалаў да нікарагуанскіх галаварэзаў. Знясільваючымі фактарамі сталі вайна ў Афганістане і маскоўская алімпіяда. Усё гэта патрабавала значных капіталаўкладанняў, што і прывяло „чырвоную імперыю" да лагічнага зыходу.

У свеце зараз зноў надзвычай неспакойна. Выдаткі на ўзбраенне паводле афіцыйнай статысткі за апошні год выраслі на 10 працэнтаў. Найбольшую пагрозу міру на планеце нясуць дзве плыні — ісламскі тэрарызм і расейскі імперыялізм. З радыкальнымі фундаменталістамі змагацца куды цяжэй — яны распаўсюдзіліся па ўсім свеце, гатовыя паміраць за сваю чалавеказнішчальную ідэю „няверных" і прымітыўнай сілай спыніць іх цяжка. З маскоўскай агрэсіяй было б прасцей, каб ёй не патураў Захад, не заплюшчваў вочы на хціваcць і злачынствы крамлёўскага рэжыму. Еўрасаюз не захацеў заўважаць, як з прыходам да ўлады ў Крамлі новага Уладзіміра „Яснага сонейка", збіральніка „рускіх зямель" адрасталі галовы ў гідры маскоўскага імперыялізму. Захоп часткі Малдовы, захоп часткі Грузіі, цяпер захоп Крыма і іншай часткі Украіны. І чарговы пыл у вочы заходнім „партнёрам" — так званыя Мінскія пагадненні. Ад самага пачатку было зразумела, што Масква і луганска-данбаскія сепаратысты не будуць выконваць умоў гэтага фіктыўнага мірнага пагаднення. Кожны дзень ідуць абстрэлы з боку ўсходніх тэрарыстаў, амаль кожны дзень гінуць людзі, у тым ліку і мірныя жыхары. Гібрыдная вайна працягваецца, агрэсія нікуды не падзелася, яна толькі набыла іншыя формы. Дзіўная і незразумелая вайна, бо адначасна ідзе тавараабарот паміж бакамі, якія вядуць вайну, гандаль паліўнымі рэсурсамі.

Нездарма маленькая мірная Эстонія ўсе гэтыя гады рыхтуецца да абарончай вайны. У гэтай дзяржаве кіраўніцтва добра ведае гісторыю і маскоўскую палітыку. Разумеюць крамлёўскую экспансію ўрады Румыніі і Польшчы. Польшча непасрэдна мяжуе з Расеяй і праз Беларусь. Нездарма НАТА будзе ўмацоўваць так званы Сувалкаўскі калідор. Усе суседзі ў геапалітычных разліках разумеюць, што фактычна Беларусь падкантрольная Маскве, на сёння як суверэнная дзяржава яна не мае свайго ўласнага войска, якое па сутнасці з'яўляецца філіялам расейскага. Як ні дзіўна, ураджанне такое, што найменш гэта разумеюць ва Украіне. Спахапіліся ўрэшце і літоўскія палітыкі, якія не хацелі спачатку разумець усёй пагрозы атамнай станцыі, што будуецца на Астравеччыне зусім паблізу Вільні і літоўскай мяжы і будзе фактычна найперш вайсковым аб'ектам. А колькі яны маўчалі і афармлялі свае гешэфты з крамлёўскай уладай! Гэта ранейшае маўчанне можа дорага абысціся як беларусам, так і літоўцам.

А тым часам Расея цэлы час нарошчвае сваю прысутнасць на мяжы з Беларуссю, імкнецца навязаць кіраўніцтву Беларусі вайсковыя базы і яшчэ больш пераўтварыць нашу краіну ў свой плацдарм, адкуль можна будзе весці атаку далей на Захад. Начальнік Беларусі нават выказаўся ў такім духу, што наша краіна гатовая першай прыняць удар на сябе. Чуеце, беларусы, вам аказаны вялікі гонар памерці першымі!

Але ці не здаецца вам, што паралелі з канцом Савецкага Саюза напрошваюцца самі па сабе? Тады маленькая, але далёка непераможная вайна з Афганістанам, зараз вайна з Украінай і сірыйская вайсковая аперацыя, тады летняя алімпіяда ў Маскве, зараз зімовая ў Сочы ды яшчэ будучы футбольны чэмпіянат свету. Вось ужо і ў Крыме намеснік Пуціна, Мядзведзеў, заявіў, што „грошай няма, але вы неяк трымайцеся тут" — фраза, якая адразу стала афарызмам. Відавочна, што і ў Беларусь ідзе зараз намнога менш халяўных крэдытаў, чым раней. Гонка ўзбраенняў, спадарове, не жарты. Не кожны дацягне да фінішу...

**Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**



# Спяшайся павольна

Я паспяшаўся і гады таму пасадзіў дзясяткі дрэў на маёй маленькай маёмасці. Уласны сентыментальны лясок мне прымроіўся. Лясок вырас байкаваты, але я плюю сабе сёння ў бараду, чытаючы новы закон аб лясах. Але больш злуецца на сваё ўласнае нецярпенне мой сусед, які ўжо быў сыты па горла штотыдзень касіць траву вакол дома і двара ды бестурботна выліў падворак асфальтам. У яго выпадку ў яго трапляе новы законапраект — «вадзяны». Абодва законы з'яўляюцца заканадаўчымі ляпёшкамі, спечанымі ў спешцы і без галавы. Урадам ПіС.

Festina lente, спяшайся павольна! — казалі старажытныя рымляне. Ці не цікава, што гэтая мудрасць, безумоўна, выпрабавана памылкамі ўчыненымі імі, з'яўляецца бескарыснай навукай для будучых пакаленняў людзей. І гэта ад больш за 2000 гадоў! Мы не вучымся на сваіх памылках, мы не вучымся на памылках мінулых пакаленняў. Надалей робім адны і тыя ж і, такім чынам, штораз больш ганебныя памылкі. Гэтая паўтаральнасць з'яўляецца ключом да разумення нашага сораму... Але я загаварыў занадта драматычным тонам, а мела быць толькі пра нястрыманую паспешнасць. У любым выпадку, спешка пажадана толькі тады, калі трэба тушыць пажар. А і гэта павінна быць зроблена ў адпаведнасці з самымі высокімі навыкамі. Такім чынам, спяшаймася павольна! З удумлівасцю. З асцярожнасцю. Гэта ставіцца да ўсіх аспектаў жыцця, нават калі спакусімся на лёгкі толк. Не спяшаймася, аднак, з атрыманнем паспешных высноў. Існуе прымаўка: «Няма дыму без агню». Або, «дзе сякуць лес, там трэскі ляцяць». Абедзве яны лагічна правільныя. Таксама як тое, што не было б так шмат атрутнага дыму ў польскай палітыцы, калі б хтосьці не падпальваў у ёй дрэннага агню. Не забываймa, што ў рэшце рэшт, той што падпальвае агонь, ад агню можа загінуць. Так, і хай міністр Шышка памятае, што яго, верагодна, засыпле пілавінне, калі раней не схавае ў шуфляду сваёй тупой сякеры.

Простыя высновы ўзнікаюць, калі дадзеныя ўпэўненыя, а заяўнік не невук. Поўным невуцтвам, хоць і надзвычай відовішчным, пахваліўся мой знаёмы, дамарослы філосаф. Ён даведаўся, што Сусвет пашыраецца значна хутчэй, чым меркавалася раней. Адлегласць паміж касмічнымі аб'ектамі — паводле новых разлікаў — праз нейкі час падвоіцца, напрыклад, ад Зямлі да Месяца. Праз нейкі час, а дакладней, на працягу каля 10 мільярдаў гадоў, што мой знаёмы прагнараваў. Дадумаўся, што калі Сусвет пашыраецца, працэс таксама ўключае ў сябе ўсю матэрыю, якая змяшчаецца ў ім, і, такім чынам, таксама тонкія міжатамныя сувязі. З атамаў складаецца чалавек. Паколькі адлегласць паміж імі расце, затым узрастае ў свеце папуляцыя... таўстуноў! Больш за тое, іх колькасць будзе павялічвацца ў прапарцыйнай ступені на столькі, на колькі павялічыцца адлегласць, напрыклад, Зямлі да Месяца. І паколькі яна пастаянна расце, гэта дакладна, мяркуючы па спосабе, у які ПіС ажыццяўляе ўладу ў Польшчы. Ну, кіруе яно гэтак, як быццам звалілася з уцякаючага Месяца. Дурныя гэтыя развагі, бо дурныя, але колькі ў іх праўды!

У адпаведнасці з красавіцкай папраўкай у закон аб лясах, у спешцы ініцыяванай урадам ПіС, участкі пакрытыя лясной раслліннасцю з аднастайнай плошчай не менш 0,10 га маюць быць ахоплены спрошчаным планам кіравання лясамі. Карацей кажучы, у адпаведнасці з новым законам у выпадку продажу або дарэння лясного грунту, пераважнае права куплі мае Дзяржаўны скарб у асобе Дзяржаўных лясоў. І якраз такую зарэзерваваную плошчу мае мой лясок, які асабіста пасадзіў я ў межах свайго палетка. Такім чынам, мая маёмасць падпадае пад план кіравання лясной гаспадаркай. Мая ўласнасць стала закладнікам Дзяржаўнага скарбу. Але значна горш на ПіСаўскай заканадаўчай спешцы выйдзе мой сусед. Згодна з праектам новага закона аб вадзе, на паверхні пастаянна пакрытай асфальтам або бетонам будзе прымяняцца гэтак званы дажджавы падатак. Яго велічыня яшчэ не вызначана. Затое вядомыя выдаткі на разборку асфальту на панадворку — жахлівыя!

**Міраслаў ГРЫКА**

P.S. Ці падаткам таксама будуць ахоплены школьныя спортпляцоўкі, вылітыя асфальтам? (М. Г.)



Сваімі вачыма

# Беластоцкі марш

У апошнюю суботу я на свае вочы вырашыў пабачыць беластоцкі марш антырасісцкага, антыксенафабічнага супраціву, арганізаваны перш за ўсё навуковай супрацоўніцай мясцовага ўніверсітэта сацыёлаг Кацярынай Штоп-Руткоўскай і іншымі асобамі, звязанымі з беластоцкімі няўрадавымі арганізацыямі. Адкрытыя далоні — сімвал праўды і сумленнасці — ды лозунг «Беласток свабодны ад нянавісці» — так гучала галоўная ідэя, ці — як сёння па-моднаму гаворыцца — пасыл арганізатараў і прыбылых на марш аднадумцаў. Адкрытая далонь — гэта па ідэйнай задуме таксама абазначае рашучы знак стоп для неталерантнасці. З выступлення спадарыні Штоп-Руткоўскай запамяталіся мне яе завяршальныя словы, са спасылкай на лаўрэатку Нобелеўскай прэміі Святлану Алексіевіч, і скіраваныя да нас саміх з заклікам пільнаваць сябе, каб нянавісць не ўвайшла ў нашы сэрцы і галовы. Вечная, універсальная жыццёвая праўда, спалучаная з хрысціянскімі запаветамі.

Чарговыя два выступленні выразна звярталіся да сённяшняй сітуацыі з уцекачамі ў Еўропе і Польшчы і былі галасам за адкрытасцю на ўцекачоў. Аліцыя Лэпкоўская, якая шмат гадоў працавала з уцекачамі, адназначна сцвярджала, што іншы не абазначае горшы і ўся прыгажосць свету заключаецца ў тым, што кожны з нас іншы ад другога. Вельмі эмацыйным і дэталёвым быў аповед армянкі Ануш Антаньян, якая 13-гадовай дзяўчынкай у 1995 годзе, пасля вайны, голаду, землятрусу, пераехаўшы звыш 4 тысячы кіламетраў, трапіла ў Польшчу і Беласток. Цяпер, будучы маці дваіх дзяцей, канчыўшы тут вышэйшую адукацыю, падзякавала ўсім тым беластачанам, якія дапамаглі ёй на жыццёвай дарозе.

Голас супраць уцекачоў у візуальнай форме на некалькі хвілін быў прадэманстраваны на расцяжцы з надпісам «Sztuczny problem, łatwy pieniądz», якую трымала некалькі маладых людзей, аддзеленых ад мітынгоўцаў паліцыйнай аховай. Ніхто нічога не выкрыкваў. У тым жа часе Матэвуш Тымура зачытаў класічны па форме і змесце ліст-зварот за «Беласток адкрыты для ўсіх, які хочуць тут жыць і шанаваць сябе ўзаемна». Затым мітынгоўцы перайшлі з Рынку Касцюшкі на плошчу перад Драматычным тэатрам. Там распачаўся другі акт маршу-пратэсту, спалучаны са своеасаблівым хепенінгам, які, па-мойму, быў хіба ўжо непатрэбным пры такой важнай справе. Яшчэ можна зразумець другое чытанне звароту дырэктаркай тэатра Агнешкай Карыткоўскай-Мазур (адыходзячай з пасады), як сімвал падзякі і пашаны за яе ўсе выстаўленыя на сцэне падляшскія гісторыі — скрываныя праўды. Такі сімвалічны паклон для яе на сходах тэатра. Аднак старацца паставіць людзей толькі дзеля формы ў выглядзе сімвалічнай рукі і здымка ў час дажджу, было ўжо крыху камічным. Для аўтара тэатральных сцэнарыяў гэта добры матэрыял для пастаноўкі. На здымках з тэатральнай плошчы, якія я бачыў потым, удзельнікі глядзеліся быццам бы жменька змоклых курапатак-сіротак.

Арганізатары стараліся пазбегнуць якой-колечы асацыяцыі з апазіцыйнымі зараз партыямі ці прытрымваючымся апалітычным Камітэтам абароны дэмакратыі. Таму загадзя яны вельмі моцна прасілі, каб на час маршу не прыносіць з сабою аніякіх расцяжак з лозунгамі ці партыйных прыналежнасцей, і запрашалі ўсіх, ня гледзячы на перакананні. Палітыкам не адводзілася таксама месца і ў час кароткіх выступленняў на Рынку Касцюшкі. Відаць, за тое і яны пакрыўдзіліся. З распазнавальных асоб з палітычнага эшалону з'явіліся толькі Роберт Тышкевіч — пасол Грамадзянскай платформы і Кшыштаф Біль-Ярузельскі з непрысутнага цяпер у Сейме Саюза левых дэмакратаў. На маё здзіўленне і смутак, паколькі справа кранае нас, жыхароў Беластока, цалкам праігнаравалі марш, нават у сімвалічнай прысутнасці і падтрымцы, мясцовыя ўлады як гарадскія, так і маршалкоўскія, не гаворачы пра беластоцкіх радных. Ну, але калі некаторыя з іх рэальна жывуць па-за горадам, дык каму хочацца рушыць ср... у выхадныя. Але ж колькі сказана і напісана ўжо ўсімі пра шматкультурнасць, талерантнасць у сотнях стратэгій ці ў прынятых дэкларацыях. Ну што ж, папера вытрымае ўсю балбатню. Горш бывае з чалавечым фактарам.

**Яўген ВАПА**



■ Прэм'ера пастаноўкі «Апошнія сведкі» ў выкананні тэатральнай групы Гайнаўскага белмузея атрымалася вельмі ўдала, перш за ўсё з-за майстэрства слова маладых выканаўцаў — злева Іаанна Стэльмашук-Троц

# «Апошнія сведкі»

## ў выкананні Тэатра Гайнаўскага белмузея

**Тэатральная група, якая займаецца ў Музеі і асяродку беларускай культуры ў Гайнаўцы пад кірункам Іаанны Стэльмашук-Троц, вядомай нашай беларускай акцёркі, сцэнарысткі і рэжысёркі, 2 чэрвеня на сцэне белмузея ўдала паставіла спектакль «Апошнія сведкі», падрыхтаваны на падставе аднайменнай кніжкі Святланы Алексіевіч. Штуршком для напісання сцэнарыя стала прысуджэнне ў мінулым годзе Святлане Алексіевіч Нобелеўскай прэміі па літаратуры.**

— Калі Святлана Алексіевіч атрымала Нобелеўскую прэмію, я рашылася наблізіць яе творчасць нашай публіцы, каб людзі пазналі яе вартасць. Яшчэ раней я прачытала кніжку «У вайны не жаночае аблічча», але яна трывала ўкаранёная ў савецкія рэаліі, якія не надта зразумелыя публіцы на Беласточчыне, асабліва моладзі. Затое кранулі мяне «Апошнія сведкі», у якой змешчаны ўспаміны і шчырыя расказы дзетак аб падзеях перыяду вайны ў Беларусі. Яны ўніверсальныя, маглі б адбыцца ў ваенны час таксама і ў нас, на Беласточчыне. Таму я рашылася падрыхтаваць сцэнарый паводле гэтай кніжкі, — скажа пасля завяршэння тэатральнай пастаноўкі **Іаанна Стэльмашук-Троц**, якая перад гэтым разам з дырэктарам Гайнаўскага белмузея Тамашам Ціханюком уручыць кветкі выступаючай моладзі (ролі выконвалі гайнаўскія белліцэісты, гайнаўскі і бельскі белгімназісты ды вучаніца І Агульнаадукацыйнага ліцэя ў Гайнаўцы), пахваліць выканаўцаў і выслухае многа пахвальных слоў у адрас сваіх акцёраў і сябе.

Прэм'ера пастаноўкі «Апошнія сведкі» атрымалася вельмі ўдала, перш за ўсё з-за майстэрства слова маладых людзей, якое перадало трагізм часоў Другой сусветнай вайны на беларускіх землях. Героямі кніжкі «Апошнія сведкі» з'яўляюцца дзеткі. Перажылі яны вайну і запамяталі канкрэтныя трагічныя здарэнні, аб якіх пасля расказалі Святлане Алексіевіч. Маладыя выканаўцы, карыстаючыся настаўленнямі сцэнарыста і заадно рэжысёра Іаанны Стэльмашук-Троц ды сваімі акцёрскімі здольнасцямі, умела ўвасобіліся ў дзетак перыяду вайны. У беларускай савецкай літаратуры і літаратурах іншых народаў былога Савецкага Саюза многа ўвагі адводзілася франтавым героям і іх змаганню з фашыстамі. Святлана Алексіевіч, захопленая творчасцю Васіля Быкава і Алеся Адамовіча, была адным з тых пісьменнікаў, якія засяродзіліся на паказанні церпення ў ваенны час звычайнага чалавека. Пісьменніца мяркуе, што Нобелеўскую прэмію атрымала за ўсю сваю творчасць.

— Ігра маладых акцёраў была вельмі добрай. Публіцы цікава было пазнаёміцца з фрагментамі кніжкі Святланы Алексіевіч. Калі яна атрымала Нобелеўскую прэмію па літаратуры, я гаварыў з вучнямі на ўроках беларускай мовы пра Алексіевіч і яе творчасць. Калі рыхтаваўся падручнік па беларускай мове для вучняў трэціх класаў гімназій, я рашыўся ўключыць туды інфармацыю пра нобелеўскую лаўрэатку і фрагменты яе творчасці. Аднак, калі лёс гімназій стаў невядомым, працы над падручнікам спыніліся, — заявіў Ян Карчэўскі, настаўнік беларускай мовы ў гайнаўскіх белліцэі і белгімназіі, таксама настаўнік часткі выступаючых акцёраў.

— Я раней многа дэкламавала па-беларуску, выступала падчас «Беларускай гавэнды» і цяпер ахвотна выступіла ў пастаноўцы «Апошнія сведкі». Мне гульня ў тэатр спадабалася. Я хацела б надалей займацца ў тэатральнай групе. Думаю, што выступаючы перад публікай крыху адчула эмоцыі, якія спадарожнічалі беларускім дзеткам падчас нямецкай акупацыі, — сказала **Наталля Васько** з Гайнаўскага белліцэя, якая некалькі месяцаў назад стала лаўрэатам Алімпіяды па беларускай мове. — На рэпетыцыі, якія адбываліся на працягу месяца, я ажно з Тарнопаля прыязджала на аўтобусе. Я ўпэўнена, што варта было.

Сцэнічнае афармленне спектакля было цяжкім ва ўспрыманні, так як і тэксты, якія пачула публіка. Частка кіназалы белмузея была абвешана цёмнымі шторамі. Пастаноўка пачыналася ў цемры, пасля акцёраў асвятлялі наперамен невялікія лямпачкі. На падлозе былі раскінуты ў творчым беспарадку дзясяткі, а можа і сотня лялек, што стварала асаблівую атмасферу.

— Лялькі, што ляжаць тут на падлозе, гэта сімвал герояў нашых аповедаў, дзяцей у розным узросце, якія сутыкнуліся з ваеннай трагедыяй, кожнае з іншай, — заявілі гайнаўскія белліцэісткі Наталля Васько і Магдалена Гаўрылюк.

Юныя акцёры белмузейнага тэатра расказвалі ўспаміны пра цудам выратаваных падчас пажару дзетак, калі згарэла іх мама, пра забітага бацьку і іншых сямейнікаў, пра закапанага падчас саракаградуснага марозу каля хаты сына, на магіле якога вырасла дрэўца, гаварылі пра расстраляных вяскоўцаў, аб забітых жыдоўскіх дзетках і аб іншых жудасных здарэннях.

— Я атмасферу апошняй сусветнай вайны і тое, што здарылася тады з дзеткамі, адчула толькі падчас спектакля, калі ў цішыні мы апавядалі трагічныя гісторыі. Падчас рэпетыцый мы вучыліся як найлепш выступіць, — сказала **Магда Гаўрылюк**, ужо выпускніца Гайнаўскага белліцэя. — Пані Іаанна прышчапіла мне любоў да тэатра і я рашылася прадаўжаць адукацыю ў вышэйшай тэатральнай школе, калі паспяхова спраўлюся з матуральнымі экзаменамі. Прашэнні буду падаваць у тэатральныя школы ў розных гарадах і яшчэ не ведаю, куды ўдасца паступіць. Ад працы ў тэатральнай групе напэўна застануцца добрыя ўспаміны.

— Я раней выступала ў групе пані Іаанны з пастаноўкай «Казкі» і цяпер вярнулася да тэатральнай групы. У нас добрая атмасфера ў групе і мы ахвотна рыхтаваліся да выступлення, — заявіла **Дамініка Пуц** з Гайнаўскага белліцэя, якая раней выступала і перамагала ў конкурсах «Роднае слова» і «Беларуская гавэнда».

Большасць удзельнікаў белмузейнага тэатра таксама перамагалі на беларускіх конкурсах, а Павел Кучынскі з Бельскай белгімназіі некалькі месяцаў таму заняў першае месца ў конкурсе «Роднае слова».

— У Бельскім доме культуры я займаюся ў тэатральным калектыве «Антракт», якім апякуецца Альжбета Фіёнік. Там на сваёй мове я выступаў перш за ўсё ў абрадавых пастаноўках, дзе мы многа спявалі, а мала гаварылі. Тут трэба было вялікія партыі навучыцца гаварыць па-свойму, так як размаўляю з бабуляй і дзядулем. Я рады, што добра атрымалася нам выступіць, — сказаў **Павел Кучынскі** з бельскай «тройкі», які далучыўся да гайнаўскай групы.

— Мне запрапанавала выступаць Наталля Васько і я рада, бо тут цікавыя рэпетыцыі і файная гульня, — заявіла **Анна Бяляўская** з Гайнаўскага белліцэя, якая раней вучылася ў гімназіі ў Нараўцы.

— Я беларускай мове вучылася ў школе ў Дубінах, а зараз вучуся ў І Агульнаадукацыйным ліцэі ў Гайнаўцы. У нашай школе пані Іаанна арганізавала тэатральную групу і мне запрапанавала далучыцца да тэатральнай групы ў белмузеі. Мне сённяшні выступ спадабаўся. Я па-свойму крыху гавару з бацькамі дома, у Навасадах, і старалася як найлепш гаварыць на сваёй мове падчас спектакля, — гаварыла **Іаанна Асіпчук**.

Гайнаўскі белгімназіст **Яцак Дружба** сказаў, што выступае з танцавальным калектывам «Перапёлка», які дзейнічае ў Гайнаўскім доме культуры, і на акардэоне састаўляе акампанемент для калектыву «Верасы» з Чыжоў. Цяпер рашыўся выступіць у тэатральнай групе. Мае маладыя суразмоўцы сказалі, што цікава ім было пазнаёміцца з творчасцю Святланы Алексіевіч.

— Я напісала 5 кніжак, аб жанчынах, дзецях на вайне, аб Афганістане, аб Чарнобылі і распадзе Савецкага Саюза... Цяпер пішу адну кніжку аб каханні, а другую аб старасці і смерці, — сказала, між іншым, пасля атрымання ў мінулым годзе Нобелеўскай прэміі Святлана Алексіевіч, выдатная пісьменніца і журналістка, народжаная ў 1948 годзе.

Яна яшчэ драматург і сцэнарыст, аўтарка дакументальных фільмаў і тэатральных спектакляў. На падставе кніжак Святланы Алексіевіч паўсталі фільмы і тэатральныя спектаклі. Пачынаючы з 2000 года яна многа падарожнічала па свеце. Жыла ў Італіі, Францыі, Нямеччыне і Швецыі, а ў 2013 годзе вярнулася ў Беларусь і стала жыць у Мінску.

— Я жыла ў розных краінах Еўропы, але наведвала Беларусь. Рашылася з'ехаць у Мінск, бо дзеля пісання я праводжу доўгія размовы з людзьмі і таму мушу быць тут, на месцы, — патлумачыла сваё рашэнне Святлана Алексіевіч.

— З папярэдняга складу тэатральнай групы засталася толькі Магдалена Гаўрылюк, сёлетняя выпускніца, якая таксама адыдзе ад нас. Новыя акцёры, гэта здольныя асобы, якія сёння ўмела запрэзентаваліся. Яны падчас рэпетыцый стварылі калектыў, які ўдала супрацоўнічае па-за сцэнай. Дзве дзяўчыны ў нас з Нараўчанскай гміны. Настаўніца беларускай мовы ў школе ў Нараўцы Анна Кандрацюк пераклала нам тэксты на нараўчанскую гаворку. Усе іншыя акцёры размаўляюць прыблізна на мове, на якую перакладае нам тэксты да выступаў Ян Максімюк. Паколькі Святлана Алексіевіч піша на расійскай мове, выступы на сваёй мове робяць выказванні моладзі яшчэ больш блізкімі нашай публіцы, — заявіла Іаанна Стэльмашук-Троц.

— Дзейнасць тэатральных груп у нашым белмузеі распачалася ў 2008 годзе. Спачатку Юлія Такаюк вяла фальклорную групу «Сявенька», а пасля настаўнік белліцэя Ян Карчэўскі рыхтаваў у нас моладзь да выступаў з гавэндай і рознымі сцэнкамі. Найдаўжэй займаецца ў нас з моладдзю і робіць гэта на высокім мастацкім узроўні Іаанна Стэльмашук-Троц. Разам з вучнямі стварыла яна ў нас тэатр, які сёння вельмі добра запрэзентаваўся на музейнай сцэне. Раней наша моладзь удала выступала са спектаклямі «Паўлінка», «Не пашанцавала». Асабліва захапіла публіку на Беласточчыне і па-за нашым рэгіёнам пастаноўкай «Бежанцы», — сказаў дырэктар Гайнаўскага белмузея **Тамаш Ціханюк**.

Маладыя акцёры, занятыя ў пастаноўцы «Апошнія сведкі», сказалі мне, што хочуць прадаўжаць займацца ў тэатральнай групе пад кірункам Іаанны Стэльмашук-Троц, якая ўдала вучыць маладых асоб акцёрству і стварае добрую атмасферу ў тэатральным калектыве.

**Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА**

## «Swampions Soccer League» у Чаромсе

У мінулым годзе, у рамках святкавання юбілейнага XX Міжнароднага фестывалю шматлікіх культур і народаў «З вясковага панадворка», праходзілі Клубныя спаборніцтвы Еўропы па балотным футболе «Swampions Soccer League». Удзельнічала васямнаццаць каманд з Польшчы, Літвы, Расеі, Беларусі, Турцыі і Нігерыі. Лозунг мерапрыемства: «Давайце палівацца балотам на спартыўнай пляцоўцы, а не ў рэальным свеце» (як жа гэты лозунг актуальны ў сучаснай рэчаіснасці). З прыемнасцю хачу паведаміць чытачам, што так прэстыжная спартыўная імпрэза еўрапейскага рангу сёлета таксама будзе праходзіць у Чаромсе ў рамках фолькавых сустрэч «З вясковага панадворка» (22-24 ліпеня). За гэта пахадайнічаў Міраслаў Самасюк, душа «Чарамшыны» і заадно трэнер футбольнай каманды «Калеяж». Арганізатары спаборніцтваў выступаюць з заклікам да айчынных спартыўных клубаў прыняць удзел у спаборніцтвах. У мінулым годзе лідарам сталі кляшчэлеўскія футбалісты з каманды «Ожэл». А хто стане ім сёлета? Варта затым прыехаць у Чаромху ў ліпені на фолькавых сустрэчы ды паглядзець саперніцтва футбольных каманд «Swampions Soccer League». Сардэчна запрашаем.

## Аўтобус у Баброўку

Баброўка — невялічкая вёсачка Чаромхаўскай гміны, на мяжы з Беларуссю. Пражывае тут шэсцьдзясят жыхароў. Дагэтуль адзіным сродкам камунікацыі са светам (цэнтрам гміны, павета і ваяводства) была аўтобусная лінія з Зубач, адлеглых на 2 кіламетры ад сялэцтва. 1 чэрвеня а 6:20 з Чаромхі ў Баброўку падаўся першы рэйсавы аўтобус «Ваяджар-Транс», які будзе вазіць пасажыраў з Баброўкі ў Чаромху, Гайнаўку затым у ваяводскі цэнтр. Сяляне змогуць паехаць на закупкі, наведаць лекара ці аформіць справы ў дзяржаўных установах. Згаданай лініяй пакарыстаюцца таксама жыхары Зубач (59 жыхароў, у тым ліку сем вучняў) і Бэрэзышчаў. Гэта заслуга ўладальніка фірмы «Вояджар-Транс» Анджэя Кейкі. Варта прытым адзначыць, што ў аўтобусе можна пакарыстацца ільготнымі білетамі. Ініцыятыва фірмы «Вояджар-Транс» годная перайманя.

**Уладзімір СІДАРУК**

## Сцёртыя палосы трэба памаляваць

Сёлета ў Гайнаўцы на вуліцах яшчэ — а ўжо канец мая — не аднаўляюць сцёртых белых палос на асфальтавых маставых, г.зв. зебраў. Не заўсёды і не ўсюды трэба маляваць зебры, але там, дзе яны малавідавочныя. Найхутчэй сціраюць іх пакрышкамі аўтобусы і грузавыя аўтамабілі перад і за скрыжаваннямі вуліц, у тым ліку і з кругавой развязкай, калі тармазяць або набіраюць скорасці. Гэтак ёсць, між іншым, на галоўных гайнаўскіх вуліцах: 3 Мая, Пілсудскага, Баторыя, Беластоцкай і Ліпавай. Там, дзе сцёртыя палосы, неабходна іх аднавіць. Цяпер стаяць цёплыя і пагодлівыя дні ды ночы і можна маляваць.

Варта памятаць, што добра відавочныя здалёк белыя палосы на чорна-шэрым асфальце патрэбныя для таго, каб было беспячней рухацца па вуліцах. Дарожныя службы павінны ўжо пачаць маляваць гарызантальныя дарожныя знакі. Перш за ўсё там, дзе пешаходы перасякаюць вуліцы. **(яц)**



# Юбілейны
## нараўчанскі пленэр

— У Любліне маю столькі нітак, што ад самой зелені вочы кружацца чалавеку, — кажа да Малгажаты Краўчук Майка Зузанская з Лэнчнай, якая якраз сабрала з нараўчанскіх лугоў вялікі пук кветця і малюе акварэллю ў гэты прахалодны чэрвеньскі ветраны дзень нараўчанскага пленэру званочкі, рамонкі, травы ўсялякія. Побач на доўгіх высокіх кроснах тчэ пень бярозы Малгажата Краўчык. Малгажата, былая жыхарка Лодзі, «даходзіць» на пятнаццаты мастацкі пленэр са сваёй новай вёскі Плянты. А ўсе іншыя ўдзельнікі творчага спаткання сёння разбегліся па сваіх палетках са сваімі палітрамі. І ледзь улавіць няўлоўнага як вецер, хоць найстарэйшага тут, камісара пленэру Віктара Кабаца. Ён тут трынаццаты, з барадой патрыярха, з дванаццаццю мастакамі.

Частка мастакоў на пленэр не змагла прыбыць. А маюцца тут яшчэ: Даніла Грамацкі з Гайнаўкі, Альжбета і Аляксандр Гжыбкі з Беластока, нараўчанскі хаця цяпер люблінскі Павел Карпюк, з Лэнчнай яшчэ і Ганарата Свідэрская, Вeслаў Бэднаж з Канапніцы, з Коўна Рэбека Брудэр і Валянцінас Варнас, і наймалодшыя тутэйшыя мастакі — хоць торуньскі але ж беластоцкі Радаслаў Мацеевіч і люблінская ды нарваўская Кацярына Сянкевіч. Іншыя не даехалі, а шкода — занялі месца на доўгачаканым, легендарным ужо мастацкім пленэры на ўскраіне пушчы, з якога застаюцца найлепшыя творы ў незвычайную, вясковую галерэю — галерэю імя Тамары Саланевіч у Нараўцы.

— Наш пленэр — юбілейны, але асаблівa не адрозніваецца ад папярэдніх, — кажа **Віктар Кабац**. — Але крышку ён іншы. Кожныя пяць гадоў Нараўчанскай гміна рашыла выдаваць такі невялікі альбом. Гэта не будзе такі паспленэрны каталог у пару старонак, але большы альбом, недзе ў пяцьдзясят старонак. Ахопіць ён мастакоў, якія за гэтыя пяць гадоў паяўляліся на пленэры. Будуць выбраны іх працы, напішуць яны штосьці пра сябе. А калі пажывем яшчэ пяць — будзе наступны. Шкадуем, што сёлета з Беларусі нікога няма, ніхто не даехаў — выніклі візавыя праблемы. А калі гаворка пра Беларусь, маем жалезную ўмову: мастакі мусяць размаўляць па-беларуску. Хто не ведае беларускай мовы альбо не хоча размаўляць — хаця некаторыя дасканала валодаюць беларускай мовай, ды не ведаю чаму размаўляюць па-руску — і ў такіх выпадках ёсць гэта прычынай, што мы адмаўляемся запрасіць такіх мастакоў. Калі яны не хочуць адчуваць сябе беларусамі, дык не мусяць прыязджаць! Пленэры ў Нараўчанскай гміне не маюць нейкіх галоўных сімвалаў ці мэт, што пленэр будзе сімвалічна прысвечаны чамусьці ці камусьці. Гэта пленэр з характарам такой вялікай мастацкай свабоды. Кожны мастак выбірае сабе што хоча, што ўбачыць, што любіць, што хоча намаляваць. Тэхніка таксама вельмі разнастайная. У мінулым годзе была таксама скульптура, сёлета разьбы няма, па тэхнічных прычынах. Ёсць тэхнічныя цяжкасці, і вынікаюць з гэтага пасля клопаты. Замала часу, гэтыя два тыдні, для разьбяра. Летась было трох разьбяроў, — мастак паказвае на падворак станіцы, дзе красуюцца драўляныя скульптуры, — і гэта іхнія творы здобяць цяпер Нараўку. Важны, дарэчы, таксама фінансавыя ўмовы, разьбярам трэба больших сродкаў: трэба купіць рэжучыя колы, наждачныя паперы, патрэбны электратоk, пілы, прылады для апрацоўкі каменя... Трэба вельмі шмат матэрыялу. Здаецца, вернемся толькі да традыцыі гэтых пленэраў, і будзе гэта пленэр для жывапісцаў...

Дадае:

— Цудоўныя тут ваколіцы, мноства матываў для малявання. Важна тое, што ў іх працах дзякуючы пленэру паяўляецца вельмі многа добрых, на высокім узроўні, твораў, якія паказваюць тое, што памаленьку знікае з краявіду. Гэта старыя дамы, характар і выгляд вёскі, нейкія прыродныя матывы, якія з гадамі змяняюць і свой выгляд, і характар, і цалкам прападаюць. І гэта вельмі важнае, і тут гміна мае вялікі набытак. У галерэі ўжо больш за дзвесце прац ад пленэраў. Вельмі многа з гэтых прац паказвае тое, чаго ўжо няма. Няма некаторых хат, і вёска выглядае іначай, чым выглядала пятнаццаць гадоў таму. Іншыя былі людзі. З гэтай прычыны каштоўнасць пленэру вельмі вялікая. Важна таксама тое, што калі з'едуцца людзі, і з замежжа, і з усёй краіны, будуецца важны мастацкі дыялог; хто кім ёсць, як жыве, што робіць, што думае, як малюе... Пленэры маюць такі нейкі іншы чалавечы фактар, вельмі важны для мастацкіх кантактаў. Гэта размовы, дыскусіі, часам у кампаніі... духа пушчы, што вызваляе дадатковую энергію...

...Трэба дадаць, што Нараўка — асаблівая гміна, асаблівая гмінная ўстанова, радныя, войт. Найбольшая тут заслуга — войта Міколы Павільча. Гэтая маленькая гміна мае сваю галерэю, мае пленэр, чаго, напрыклад, не мае Гайнаўка, вялікі павятовы горад. Таму вельмі нізкі паклон у бок людзей, якія пленэр арганізуюць, рыхтуюць, даюць фінансы. Сёння, у цяперашніх эканамічных умовах, вельмі цяжка такую гміну знайсці, такога спонсара. Галерэя з'яўляецца вельмі важным элементам у культуры Нараўчанскай гміны, а нават і павета.

Хто стварае гэты пленэр?

— Ёсць такія, хто быў тут ад першага пленэру, як я, — удакладняе Віктар Кабац, — і былі амаль ад заўсёды, як, напрыклад, спадарства Гжыбкі, яны прыязджалі ад другога пленэру. Ад шмат пленэраў — Даніла Грамацкі. Але стараемся, каб была нейкая ратацыя артыстаў, бо была б галерэя гэтых самых людзей ад шмат гадоў. Але мастацкі корань ёсць ад гадоў, ад першага пленэру. Іншыя прыязджаюць па два, тры гады запар, а больш-менш палова мяняецца штогод. Тут у самой Нараўцы ў нас другі раз пленэр. Мелі мы свае пленэры ў Ляўкове, але ўжо мы яго моцна «абмалявалі». А першы пленэр быў у Масеве, па ініцыятыве Касі Бяляўскай, інструктаркі Гміннага цэнтра культуры ў Нараўцы, сарганізаваў яго мастак Пятро Гаган з Гайнаўкі ў 2001 годзе. Невялікі, у шэсць асоб. Дзякуючы гэтаму пленэру ўзнікла галерэя. Была царская школа з 1904 года. На завяршэнне пленэру мелі мы вогнішча. Войт спытаўся, што рабіць з карцінамі, што намаляваныя. Аддаць у школу? Прадаць? Мы тады з Пятром Гаганам і Казімірам Юргелянцам пажартавалі, што найлепш было б пабудаваць галерэю. А войт гэта прыняў усур'ёз. Мастацкі плён першага пленэру быў настолькі каштоўным, што адразу здабыў прыхільнасць гмінных улад, а войт стаў энтузіястам працягу пленэраў і сапраўдным апекуном мастакоў. І калі атрымаў грошы з Еўрасаюза, сталі рамантаваць тую школу. Працягваўся рамонт досыць доўга, два ці тры гады. Адрамантавалі яе прыгожа, і цяпер гэта прафесійная галерэя, якая павінна быць для экспанавання карцін, скульптур. Стала яна сапраўднай прафесійнай мастацкай галерэяй, атрымаўшы імя знакамітай дакументалісткі, урадженкі гміны, жыхаркі Нараўкі Тамары Саланевіч, якая сваю вучобу пачынала якраз у гэтым будынку. Ёсць там пастаянны працаўнік, што з'яўляецца феноменам, бо таго адмысловага працаўніка ўтрымлівае гміна. Галерэя адкрытая пяць дзён у тыдні. Мінула ўжо пяць гадоў, як узнікла галерэя, і цяпер частку прац, якія там апынуліся, можна прадаць. Ужо выдзелена частка прац, пададзена цана; ёсць там тры групы — таннейшыя карціны, з сярэдняй цаной, і даражэйшыя. І так галерэя стала крыху зарабляць. Ідуць яны ў Гмінны асяродак культуры, які можа імі распараджацца. Кожны ўдзельнік пленэру пакідае ў галерэі адну карціну. Калісь сам мастак рашаў, якая будзе гэта карціна, цяпер ствараецца камісія з трох чалавек, якая выбірае.

... Мы хацелі б, каб пленэры працягваліся. Але змяняюцца эканамічныя, палітычныя адносіны, і пленэр таксама перажывае розната роду няўпэўненую сітуацыю, — турбуецца камісар пленэру.

— Але калі гаворка пра спадара войта, гэта проста феномен. Ён тут бадай трыццаць гадоў, ведае месца, залежыць яму на сваёй зямлі. Нараўка мае шчасце, што мае такога войта, такога чалавека. Відаць простым вокам, што Нараўка з году на год змяняецца, папраўляецца. Прыгожа, дагледжана, па-гаспадарску, акуратна, чыста. Спадзяемся, што нашы пленэры будуць працягвацца. Для нас гэта пазітыўны момант, і з-за таго, што маем тут шмат што для малявання, а перш за ўсё можам спаткацца. Задума спасылкі на багатую творчую традыцыю, выкарыстанне непаўторных каштоўнасцей краявіду, гасцінасці і абычаяў жыхароў, кліматы пушчанскіх вёсак і пасёлкаў схіляюць нас да новых творчых дзеянняў.

Майка Зузанская чацвёрты раз на нараўчанскім пленэры.

— Калі гаворка пра краявід, ён тут непаўторны. Я таксама родам з усходняй часткі Польшчы, з Люблінышчыны. Я яшчэ помню такія кліматы, з часу, калі я была дзіцём, падобныя як тут на Падляшшы. Але ўжо ў нас архітэктура памянялася, шмат што прапала. Дамы, платы. Але і тут... Была я ўчора на экскурсіі з Данілам, бачым хаціначку драўляную. Але пад хаткай газончык выстрыжаны. Калісь хадзілі б тут куркі, гускі, авечкі траву выскубалі б... А тут зрэзаная яна газонакасілкай. Уяўляю сабе, што зараз з хаткі выйдзе бабуленька, а тут выходзіць пані са сталіцы, якая гэты дом набыла.

— Пленэры далі плён больш за 200 прац у нашай галерэі, — войт Нараўчанскай гміны ганарыцца творчымі здабыткамі мастакоў. — А найбольшая ў тым заслуга Віктара Кабаца і Пятра Гагана — яны былі першымі, якія заразілі нас такім спосабам на папулярызаванне гміны, на ўзмацнянне каштоўнасцей, на ўвекавечанне памятак, якія, на жаль, прападаюць, ды намаляваныя — жывуць. Ёсць клімат для таго, каб працягваць адлічванне новых пленэраў, бо ёсць спрыяльны клімат і ў самаўрадзе гміны. Дзякую ўсім мастакам, якія сталі амбасадарамі Нараўчанскай гміны.

**Тэкст і фота Міры ЛУКШЫ**

# З выцінанкай праз гісторыю

Куды вядуць мастацкія ўяўленні славутых постацей гісторыі Беларусі, ды што можа аказацца вынікам праліцця гэтых уяў пры дапамозе паперы? Знайсці адказ на тыя пытанні паднялася майстрыха па выцінанцы **Вольга Бабурына**. Эфектам пошукаў мастачкі з Менска з'явіліся працы прэзентаваныя на выставе «Мая гісторыя», якая адкрылася 14 траўня ў Ратушы ў Бельску-Падляшскім. Спецыфіка прац Вольгі Бабурынай не дазволіла перайсці каля іх выцінанках можна знайсці прадстаўнікоў як мужчынскага, так і жаночага полу. Можам там знайсці прыкладна самыя мужныя асобы, напрыклад князя Вітаўта, Гедыміна, Стэфана Баторыя ды Жыгімонта Аўгуста. З жаночага полу гэта постаці якія перш за ўсё адрозніваюцца ад сябе. Гэта Сафія Гальшанская, якая дала нашай зямлі сваіх сыноў: Уладзіслава III і Казіміра Ягелончыка — «добрых кіроўцаў краіны». Іншай з постацей з'яўляецца Бона Сфорца. Лічу





яе супярэчлівай асобай — яна з аднаго боку быццам авантурная, але адначасова ўнесла шмат культурных рэформ у перыяд існавання Вялікага Княства Літоўскага і Рэчы Паспалітай. У маіх працах не магло таксама бракаваць Барбары Радзівіл. Я ўспрымаю гэтую постаць як аскетычную, эстэтычную. Гэта абраз асобы сумнай, прыгожай, якая з'яўляецца сімвалам жаноцкасці, далікатнасці і немажлівасці супрацьстаяння агрэсіі.

Прысутнасць мастацкай творчасці ды асобы Вольгі Бабурынай у бельскай ратушы паказвае як істотным з'яўляецца супрацоўніцтва нашай установы з творцамі з-за ўсходняй мяжы, кажа дырэктарка музея, Аліна Дэмбоўская:

— У мінулым годзе спадарыня Вольга разам са сваімі працамі і майстар-класамі наведала Гайнаўку. На жаль, не атрымалася мне тады там пабываць. Аднак пачула я з боку працаўнікоў тамашняга Беларускага музея ды прадстаўнікоў Беларускага пасольства добрыя словы адносна творчасці беларускай выцінаншчыцы. Я накіравала ёй прапанову прадстаўлення ейнай творчасці таксама ў бельскай ратушы, чым яна і пакарысталася. Самая выцінанка з'яўляецца галіной, якая ўзбуджае зацікаўленасць нашага музея. Дагэтуль можна было паглядзець працы выкананыя гэтай тэхнікай, якія прыехалі да нас з раёнаў Ловіча, што ў Польшчы. Зараз надышоў час на беларускую выцінанку, якая, на мой погляд, характарызуецца прадуманасцю. Самая Вольга Бабурына з'яўляецца творцам з вялікімі ўмеласцямі. Звяртаецца таксама да культурнай спадчыны, з якой вырасла і якая, зразумела, для яе ёсць вельмі важная.

Працэс паўставання калекцыі прац сабраных пад назвай «Мая гісторыя» пачаўся ў 2013 годзе. На ідэю стварэння серыі выцінанак прысвечаных гістарычным постацям мела ўплыў пабыўка мастачкі на VI З'ездзе беларусаў свету, які адбыўся ў гэтым жа самым годзе.

— Да выцінанак прэзентаваных на выставе прыцягвае мяне перш за ўсё гістарычная тэматыка і аднясенне да дрэва. — лічыць наведвальнік выставы, Яцэк Саберай. — Я гэта інтэрпрэтую як матыў «Дрэва жыцця». Тыя заўважаныя мной элементы, пададзеныя ў абстрактны спосаб. Мушу адначасова сцвердзіць, што гэта мая першая сустрэча з беларускай выцінанкай. На аснове якраз гэтых прац магу палічыць, што характарызуецца яна відавочнай дакладнасцю.

абыякава бяльшчанам, якія ў гэты час глядзелі экспазіцыі бельскай ратушы ў рамках агульнапольскай акцыі «Ноч музеяў». Увагу наведвальнікаў прыцягнулі таксама майстар-класы па выцінанцы, на якіх беларуская мастачка дзялілася сваім вопытам.

Выцінанкай Вольга Бабурына займаецца больш за 30 гадоў. Першыя кантакты з гэтай галіной у спрошчанай форме ўзнікалі яшчэ ў раннія дзіцячыя гады, калі разам з мамай тварыла яна дамашнія аздобы, якія ўпрыгожвалі памяшканне перад Новым Годам. Выцінанкай як відам мастацтва Вольга Бабурына пачала займацца ва ўзросце 12 гадоў. Прыблізна з гэтага часу пачала таксама атрымліваць адукацыю ў гэтай жа галіне. Навучаць выцінанцы пачала яе Вікторыя Чырвонцава ў мастацкай школе ў родным Маладзечне. Вучылася таксама на факультэце мастацтва ў Гарадзенскім дзяржаўным універсітэце імя Янкі Купалы. Была ўдзельніцай і прызёркай беларускіх ды міжнародных выставак, фестываляў і конкурсаў. Працы Вольгі Бабурынай упрыгожвалі, між іншым, Усеагульную дэкларацыю правоў чалавека. Яна — стыпендыятка Рэспублікі Беларусь у галіне культуры і мастацтва. Актуальна з'яўляецца старшынёю секцыі выцінанкі ў Беларускім саюзе майстроў народнай творчасці.

«Маю гісторыю» складаюць 25 прац, якія прадстаўляюць вывы постацей істотных для дзеяў Беларусі. Агульная назва выставы толькі прытворна тычыцца якраз маёй асобы, кажа Вольга Бабурына:

— Я стала ўспрымаць гісторыю свайго краю зусім пад іншым уседамленнем. Я пачала адчуваць яе як быццам яна была жывая, Беларусь дыхала гэтай гісторыяй, а я ўсё гэта прапускаю праз сябе, вобразам чаго з'яўляюцца якраз мае працы. На іх я спалучыла беларускую традыцыйную выцінанку і сімволіку з графічнасцю дадзеных выяў важных у дзеях маёй краіны постацей. Кожная з гэтых асоб вакол сябе мае дрэва жыцця, якое адначасова з'яўляецца любімым сімвалам беларускіх выцінаншчыкаў. Я вырашыла прадставіць гэтае дрэва ў спецыфічнай форме: паказвае яно характэрныя рысы кожнай з гэтых гістарычных асоб. Канешне, дрэвы прадстаўленыя ўнізе кожнай з выцінанак маюць карані і галіны, але яны адрозніваюцца ад сябе. Гэта вынікае з таго, што кожная з асоб мае сваю асабістую, характэрную якасць. На

— Разам з сяброўкай мы задумваліся над гэтым ці паасобныя працы выкананыя з адной часткі, ды можа складзеныя з некалькіх элементаў, — кажа наведвальніца Іаанна Горская. — На прадстаўленых выцінанках я прыкмеціла таксама багацце дробных элементаў. Упершыню сутыкаюся з працамі Вольгі Бабурынай. Адначасова магу сцвердзіць, што гэта не першая мая сустрэча з беларускай выцінанкай. Раней працы выкананыя аўтарам з Беларусі, зараз не помню якім, я бачыла ў Музеі малой бацькаўшчыны ў Студзіводах.

У час адкрыцця выставы праходзілі таксама майстар-класы па выцінанцы. Менская майстрыха перадавала зацікаўленым наведвальнікам сакрэты творчага працэсу.

— Я вельмі люблю праводзіць заняткі, прысвечаныя выцінанцы. Гэта тычыцца не толькі маёй краіны, але таксама замежжа. Перш за ўсё гэта дапамагае мне распаўсюдзіць спецыфічную беларускую выцінанку. Нягледзячы на тое, што выцінанка як тэхніка функцыянуе прыкладна і ў Польшчы, і ва Украіне, яны розняцца ад беларускага яе віду. Таму і на гэтых жа майстар-класах зацікаўленыя знаёмяцца з выцінанкай, у якой захаваная адпаведная спецыфіка. На першы погляд мае працы па сутнасці не зусім традыцыйныя. Фактычна, у іх ёсць шмат спасылак на традыцыі, прыкладна калі ідзе пра складанне матэрыялу, з якога выкананая кампазіцыя. Адначасова я стараюся тварыць выцінанку ў яе сучасных формах. Якраз гэтым элементам я імкнуся навучыць іх.

Як падчас тварэння сваіх выцінанак, гэтак і ў час майстар-класаў Вольга Бабурына карысталася перш за ўсё натуральнымі матэрыяламі:

— За цэлы гэты час, у якім займаюся галінай выцінанкі, я ніколі не прымяняла сінтэтычных матэрыялаў, прыкладна пластмасы. Для выканання працы патрабую толькі паперы і нажніц. Адзінай субстанцыяй, якой падчас працэсу паўставання складу можна палічыць неарганічнай, з'яўляецца клей, якім склейваю адпаведныя часткі дадзенай працы.

— Я вырашыў паспрабаваць сваіх сіл у выцінанцы бо гэта для мяне зусім новы выклік, — кажа ўдзельнік майстар-класаў Патрык Саевіч. — Мая выцінанка прадстаўляе дрэва. Мушу сцвердзіць, што тварэнне такога тыпу прац не належыць простым задачам і здаецца мне, што не буду мець столькі цярплівасці, каб рабіць наступныя спробы.

— Не проста выканаць такую выцінанку, якая мне атрымалася. Мне яна дарэчы нагадвае кветку, — кажа ўдзельніца заняткаў Ніколя Вярцінская. — Агулам працэс тварэння такога тыпу мастацкіх прац складаны. Але несумненна варта паклапаціцца.

У планах Вольгі Бабурынай стварэнне наступнай калекцыі пад гэтай жа самай назвай. Планаваная чарговая частка калекцыі таксама будзе мець гістарычны характар. Будзе аднак тычыцца продкаў мастачкі родам з Маладзечна. Іхняя гісторыя звязаная з Вілейшчынай і Мядзельшчынай, што ў Менскай вобласці Беларусі.

Выставу «Мая гісторыя» аўтарства Вольгі Бабурынай у Бельскай ратушы будзе можна глядзець да 31 жніўня.

Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА

Анатоль ПАРЭМБСКІ

## «Асенняму лісту» на 25-годдзе

У Гарадку нясецца спевам,
чутна тут яго кругом
на імпрэзах, на бяседах
прым вядзе Культуры дом.
Чы падростак, чы сеніёр,
калі хочаш, часу хваціць
пацягнуць які акорд.
Гарадоцкія сеніёркі
«Асенні ліст» стварылі хор,
спевам блiснулі як зоркі,
маладым наперакор!
А ўжо дзе іх не бывало:
славіць свой рэпертуар,
сказаць праўду то бязмала,
знаюць польскі ўвесь абшар.
У спеве іх пачуеш рысу,
больш якой нідзе няма:
часам трэскаеш ад смеху,
часам падаеш да дна,
ці слязу ўроніш горку,
і радасць заказыча кроў.
Спомніш бляскі ўсе і змрокі,
як пражыў ты й што прайшоў.
Бабці і мамы песню ўчуеш,
усё па сённяшні галас,
як і дзе хто заначуе,
пра каханне й пра кірмаш...
Спеву столькі год за вамі!
«Асенні ліст» — другі ваш дом.
Заўша публіка бравамі
аддае вам свой паклон.
«Асенняму лісту» сёння жадаем:
Няхай многія лета яшчэ нам спявае!
Бо Вашыя спевы высокай уроды.
А здароўе хай служыць вам
многія, многія годы!

## Для капелы Янкі Карповіча «Хутар»

У Гарадку ўсе людзі знаюць,
як у «Хутары» спяваюць,
бо ў іх важаты «Званчык»
са сваёю палавінкай:
ім пражыць без песні трудно
нават і гадзінку!
Ой, шчаслівая мясціна,
дзе жыве Карповіч Янка!
Абы толькі ён прачнуўся,
зараз будзе і гулянка!
Тут гітара пад рукою,
жонка песні падцягае,
сонца весялей засвеціць,
калі «Хутар» заіграе.
А іх песні, а іх тоны
сягнуць так душы глыбока,
што альбо цешышся да пуку,
або выціраеш вока.
«Хутар» хто пачуў раз, другі,
будзе да яго спяшаці,
бо так музыкі чароўнай
як «Хутара»
больш яму ў жыцці не знаці!

## Чаромхаўскі ГАК запрашае

Гмінны асяродак культуры ў Чаромсе ў суботу 18 чэрвеня арганізуе майстар-класы для рэалізацыі праекта „Малітва" і запрашае да актыўнага ў ім удзелу жыхароў гміны: дарослых, старых і моладзь. Мэтай праекта з'яўляецца падрыхтоўка спектакля, які запрэзентуецца шырокай публіцы ў першы дзень Міжнароднага фестывалю шматлікіх культур і народаў „З вясковага панадворка". Ідзе вартая падтрымкі, таму заклікаю чарамшан да ўдзелу ў праекце. Спектакль пакажа даўнейшыя і сучасныя будні мясцовай грамадскасці, яе культуру і абрады.

(ус)



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)
www.e-zorka.pl

зорка
для дзяцей і моладзі

# Каларытнае развітанне са школай!


фота Аляксандр Васылюк

Гэтага дня чакалі ўсе дзеці і бацькі, дзядулі і бабулі. Мы таксама паспяшылі пазахапляцца творчасцю беластоцкіх дзетак. Хацелася яшчэ падтрымаць рэдакцыйных сяброў, спадарства Касю і Адама Паўлоўскіх. Якраз на сцэне мелі выступаць іх дзеці Ніка і Віктар. Пан Адам, хоць сам як адзіны з сям'і не выступаў на сцэне, перажываў, хваляваўся. Яго задачай, як і большасці нашых бацькоў, якія дапамагалі ў збіранні касцюмаў і рэквізітаў, было выкананне панцыра для Чарапахі, якога меў сыграць першакласнік Віця. Словам, усе перажывалі, думалі як гэта атрымаецца на сцэне. А сцэна — не абы-якая! Аб'яднанне АБ-БА ўжо чарговы раз на падвядзенне мастацкіх вынікаў запрасіла на сцэну ў Драматычны тэатр! Словам, усіх чакала выступленне ў самым прэстыжным месцы ў Беластоку. А гэта абавязвае!


фота Адам Паўлоўскі

На пачатку выступіў танцавальны гурт (з рабочай назвай) «Падляшскі вянок». У яго выкананні мы пабачылі танцы «прывітальны» і «полька». Гэта была чыстая радасць для вачэй! Дзеткі, якія год працуюць пад кірункам Аксаны Прус, паказалі стараннасць і ахвоту да танцаў, дысцыпліну і энтузіязм. Такі від заняткаў у нас вельмі рэдкі і таму патрэбны. Танцы падабаліся ўсім, а наймалодшыя гледачы (на свята прыйшло шмат сястрычак і брацікаў) аж пішчалі ад эстэтычнай задаволенасці. Не менш пазітыўных пачуццяў наклікаў спектакль «Жабкі і чарапахі», які з наймалодшымі дзеткамі паставіла акцёрка Іаанна Троц. П'есу напісаў сучасны беларускі драматург Сяргей Кавалёў. Незвычайна зялёна выглядалі сцэнічнае афармленне і касцюмы. Акцёры жабкі вялі рэпетыцыю. Іх музычны шэдэўр, на мелодыю паланэза Агінскага, меў паслухаць сам маэстра Салавей (Аляксандр Хаманюк).

Маэстра, як гэта бывае з мастакамі, па дарозе пазнаёміўся з Чарапахай. З яе выступлення смяяліся жабы. Аднак маэстра Салавей, калі пачуў раскрытыкаванае жабкамі выступленне, быў у захапленні. Уразіў яго таленавіты тэкст песні. І яшчэ больш выкананне твора ў стылі рэп. Ну, тут Віця Паўлоўскі перайшоў усе спадзяванні. Як заспяваў — дарослыя і дзеці ад уражання прыадкрылі раты! І пасыпаліся гучныя авацыі. Пасля, калі ў спадара Адама мы пыталі, хто навучыў яго сынка так спяваць, той адказаў:

— Мы з жонкай не ведалі як гэта мела выглядаць. Ён нічога нам не сказаў у хаце... *(працяг будзе)*

**ЗОРКА**

*Міра ЛУКША*

## Бук

*Крэпкі бук, мацук!*
*Не слабейшы за дуб!*
*Плод — трохгранны арэх*
*сырым не еж яго ў спех —*
*па восем аж кілаграм*
*з галін бук кіне нам.*
*А алей пакладзе чалавек*
*у ласунак, у хлеб, у лек,*
*у кансерву, парфуму і шмар,*
*у выдатную мазь на твар,*
*для людзей, а і для машын.*
*А колькі ж дабра яшчэ ў ім!*
*І ў драўніне, і ў лістах!*
*Ды самай важнай — краса,*
*калі бук-прыгажун жывы,*
*у краявідзе парку, лясным,*
*укаранелы ў зямлю на вякі,*
*каляровыя дорыць лісты,*
*высылае нам весткі з даўнін...*
*Старажыл, наш бук-селянін.*

## УВАГА КОНКУРС! № 25-16

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку" да 3 ліпеня 2016 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

## Загадкі з роднай хаткі

**Зоркі, як званочкі,**
**Ды звіняць: «дзінь-дон-дзінь-дон»,**
**Да мяне прыходзіць сон.**
**І нясе мне казку ён,**
**Чую зорак светлы звон,**
**Я хутчэй заплюшчу вочкі —**
**Хай звініць званочкам**
**Н....**

**Адказ на загадкі № 21-16: Лета. Узнагароды, аўтаручкі, выйгралі Аляксандра Кудышэвіч, Каміль Суровец з Бабік, Мартына Лукша, Карнэлія Барэчка з Нараўкі. Віншуем!**

# Сямейны пікнік у Дубінах

Чацвёрты сямейны пікнік пачаўся раніцай у суботу на пляцоўцы перад школай у Дубінах. Мерапрыемства прыцягнула вялікую колькасць людзей: бацькоў, настаўнікаў, дзядуляў і бабуль, але найбольш было дзетак. Хаця галоўнай арганізатаркай Сямейнага пікніка з'яўляецца дырэктар школы ў Дубінах Аліна Гіншт, аднак яна прызналася, што ўсе на працягу некалькіх тыдняў працавалі, каб пікнік быў сапраўды незвычайнай падзеяй. Абмяняліся думкамі, рыхтавалі цікавую праграму, дзяліліся абавязкамі. І, трэба сказаць, што гэтая праца дала плён! Было весела і цікава.

Усюды было поўна разгуляных дзяцей: пры сцэне, пры стэндзе з цукровай ватай, папкорнам, сталах са здаровай ядой таксама. А калі хтосьці спацеў ад гульні і спякоты, якая дайшла да адзнакі 26 градусаў, мог падысці да працаўніцы школы спадарыні Гражыны. Яна падрыхтавала розныя фруктовыя сокі і кампоты.



Дзеткі падбягалі да яе і ледзь дыхаючы пыталіся: „Можна чагосьці напіцца?”. Спадарыня Гражына не толькі прапанавала дзеткам рознага смаку і колеру сокі, але нават паклапацілася, каб былі яны лёгка халодныя. Таму стэнд спадарыні Гражыны, ці гэта дзякуючы напоям, ці ўсмешцы, якая не сыходзіла з яе вуснаў, быў самым папулярным!

Ну, так. Хтосьці мог бы падумаць, што такія гульні суправаджаюць усе кірмашы ці пікнікі. Вось, гэта не ўсё. Арганізатары на гэты дзень запрасілі прадстаўнікоў шматлікіх службаў. Былі памежнікі, пажарнікі, якія прэзэнтавалі пажарныя машыны. Былі таксама заўсёды сур'ёзныя жаўнеры, якія ў той дзень ахвотна адказвалі дзецям на ўсе пытанні, а нават дазвалялі патрымаць ружжо. Дубіны — гэта вёска, таму не здзіўляе, што найбольш маладых хлопцаў цікавілася выстаўкай трактароў прадпрыемства „Пронар”. Самыя адважныя нават заходзілі ў сярэдзіну машыны, сядалі на фатэль і, трымаючы руль, выглядалі так, быццам бы ўжо ехалі вырашаць нейкую сур'ёзную сельскагаспадарчую справу. Самыя працаўнікі „Пронару” жартавалі, што прывезлі на пікнік не самыя лепшыя трактары, каб маладыя аматары вялікіх машын чагосьці ў іх не змайстравалі.

У час пікніка было сонечнае надвор'е, усе мелі воўчы апетыт, добры настрой і атмасферу весялосці! Пікніковыя хвіліны рэкрэацыі і адпачынку прайшлі хутка, але прынеслі радасць і адчуванне таго, што дубінскія школьнікі, бацькі і настаўнікі любяць і ўмеюць як працаваць, так і разам гуляць. Да сустрэчы ў Дубінах ужо праз год!

**Тэкст і фота Уршулі ШУБЗДЫ**





# Быць як найлепшай беларусачкай!

*Беларусь у вачах маёй сям'і гэта не толькі краіна за ўсходняй мяжой, але большая частка нашай культуры, традыцыі і рэлігіі.*

*З вуснаў маёй бабулі і дзядулі я ніколі не чула, што яны адчуваюць сябе палякамі. Не гаварылі пра гэта, але заўсёды было вядома, што яны — падляшскія беларусы.*

*Вернемся некалькі гадоў назад. Калі я была яшчэ малая, праводзіла час з бабуляй і дзедам. Аднойчы пачала глядзець старыя прадзедавы фатаграфіі і сярод іх знайшла яго вайсковую кніжку. У той рубрыцы, дзе прадзед павінен пазначыць сваю нацыянальнасць, быў надпіс: «беларуская». Тады я сапраўды зацікавілася Беларуссю. У гэтым часе я даведалася пра бежанства 1915 года і аб змрочнай гісторыі 1946 года. Я паступова пачала разумець, што такое Беларусь. Першы раз паехала я на фестываль «Басовішча» і святкавала Дзень Волі. Ёсць у гэтым вялікая заслуга маёй сястры, якая паказала мне Пагоню, бел-чырвона-белы сцяг і сапраўдны гімн Беларусі. Яна ўжо раней зацікавілася гэтай тэмай. На дадзены момант я ведаю што такое нацыянальная сімволіка. У школе я ахвотна вывучаю беларускую мову, якую лічу роднай. У хаце стараюся размаўляць па-беларуску, але не заўсёды мне атрымліваецца.*

*Я стараюся быць як найлепшай беларусачкай, таму што я проста кахаю Беларусь, а яна ў гісторыі маёй сям'і прысутная ад заўсёды.*

**Ева Іванюк, шосты «а» клас, гайнаўская «шасцёрка»**

## Вершы Віктара Шведа



### Бедны конік

— Надзвычай бедненькі
наш конік,
Стаю ў яго я абароне.
Што магу зрабіць я, татка,
Каб быць з сумленнем
у парадку?

Адпачывае воз зімою,
А сані летняю парою
А бедны конік, з людзей волі,
Не можа адпачыць ніколі.

### Размова суседак

— Мілы муж мой, Сашка,
Скажу табе, Агата,
Працуе вельмі цяжка,
Пасвістывае заўзята.

— А мой муж, Сярожка, —
Адказвае Антолька, —
Як лодар кісне ў ложку
Пасвістваючы толькі.

# Польска-беларуская крыжаванка № 25-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку”. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 21:**

Дзень, вапна, удавец, два, танаж, лекар, гар, як, аўта. Дол, для, век, смак, футра, вуда, баран, павага, ежа, шанц, рэ.

Узнагароды, сшыткі з беларускім арнаментам, выйгралі **Каміль Суровец, Міхал Паніквіцкі, Рафал Шумінскі** з Бабік, **Міхал Тапалянскі** з Нарвы, **Валерыя Люляк** з Міхалова, **Ася Адамюк, Оля Чабай, Якуб Казімірук, Аня Рушчук** з Новага Корніна, **Мартына Лукша, Рафал Новік** з Нараўкі. Віншуем!

Krąg
Ara
Podmurek
Kropka
Tukan
Szacunek
Przejście
Kładka
Szpak
Marynarz
Juta
Humor
Do (nuta)
Szczyt
Kanada
Statek parowy
Ina
Kudła

# XII Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах»





■ Выдатным беларускім калектывам, які апошнім часам штогод выступае на беларускім фестывалі «Культура на музейных сходах», з'яўляецца гурт «Арт-Пронар» з Нарвы



– Да мяне падыходзяць штораз новыя дзеткі і, сядаючы за ганчарным кругом, стараюцца вылепіць з гліны нейкі гаршчочак, – сказаў Міраслаў Пяхоўскі

**— Беларускі этнаграфічны фестываль «Культура на музейных сходах» мы стварылі на аснове фэстаў, якія белмузей ладзіў на сваёй тэрыторыі на працягу года. Падчас кожнага фэсту прэзентавалася адно выбранае рамяство або рукадзелле, гучала беларуская музыка. Беларускі этнаграфічны фестываль стаў нашым самым вялікім мерапрыемствам, якое здабывае штораз большае прызнанне ў нашай публікі, — сказаў дырэктар Музея і асяродка беларускай культуры ў Гайнаўцы Тамаш Ціханюк.**



■ Жанчыны з Клуба майстроў «Творчасць» з Брэста прадавалі вышыўку і сувеніры



Падчас XII Беларускага этнаграфічнага фестывалю «Культура на музейных сходах», які адбыўся 5 чэрвеня, у дзень святкавання ў гонар прападобнай Еўфрасінні Полацкай, стаяла сонечнае і цёплае надвор'е. Сабралася многа публікі. Старэйшыя сядзелі на лаўках, дзеткі, іх бацькі і моладзь цікавіліся народнымі ўмельцамі, якія вялі майстар-класы па рамястве і рукадзеллі. Наведвальнікі фестывалю маглі з'есці беларускія бульбяныя стравы, паспрабаваць каўбасу і сала, выкананыя паводле мясцовых рэцэптаў, паслухаць беларускія песні. Некаторыя з сабраных успаміналі, як гэта дзень раней у Свята-Троіцкі сабор у Гайнаўцы была ўнесена ікона з мошчамі прападобнай Еўфрасінні Полацкай, заступніцы беларускага народа. На беларускі фестываль прыбылі гайнаўскі староста Міраслаў Раманюк і намеснік бургамістра Гайнаўкі Андрэй Скепка. Былі прысутныя таксама дырэктар Культурнага цэнтра Беларусі ў Варшаве Міхаіл Рыбакоў і нядаўна абраная намесніца гайнаўскага старасты Ядвіга Дамброўская.

Перад публікай першым займальна выступіў беларускі калектыў «Калыска» з Самаўрадавага садка № 1 у Гайнаўцы, якім апякуюцца настаўніцы Міраслава Ніканчук і Ала Супрун (у гэтым прадшколлі вучаць дзетак беларускай мове, беларускім танцам і даўнім абрадам). Дашкольнікі з калектыву «Калыска» падчас рэпетыцый развучваюць беларускія аўтарскія песні, фальклорныя прымаўкі, даўнія скорагаворкі і беларускія вершыкі. Удала яны выступілі на вялікай сцэне каля музея.

З беларускімі эстраднымі песнямі цікава запрэзентаваўся беларускі калектыў «Ручаёк» з Белавежы, якога апекуном і акампаніятарам з'яўляецца Марк Зубрыцкі. Апошнімі гадамі ён многа зрабіў у галіне развіцця беларускай культуры і беларускай адукацыі ў Белавежы. Марк Зубрыцкі — працаўнік Белавежскага асяродка культуры, піша праекты і за атрыманыя сродкі арганізуе, між іншым, пленэрныя мерапрыемствы, у праграме якіх маюцца беларускія песні. З калектывам «Ручаёк» выступае ён на многіх беларускіх мерапрыемствах, таксама па-за Белавежскай гмінай. У Комплексе школ у Белавежы, разам з настаўніцай беларускай мовы Анджалінай Масальскай і з выкарыстаннем вонкавых сродкаў, суарганізуе «Беларускія вячоркі» з удзелам людзей беларускай культуры, падчас якіх гучыць беларуская музыка.

Выдатным беларускім калектывам, які апошнім часам штогод выступае на беларускім фестывалі «Культура на музейных сходах», з'яўляецца гурт «Арт-Пронар» з Нарвы. Сёлета выступіў ён з вядомымі сваімі беларускімі гітамі і новымі песнямі.

— Прыемна паслухаць, калі так займальна выступае наш фірменны калектыў, — заявіў Яраслаў з Гайнаўкі, які працуе ў суполцы «Пронар» у Нарве.

З беларускімі эстраднымі творамі ўдала выступілі таксама два гайнаўскія калектывы «Рэтра» і «Давід Шымчук бэнд», які стаў сёлетнім лаўрэатам цэнтральнага агляду фестывалю «Беларуская песня». Беларускі калектыў «Калінка» быў запрошаны ў Гайнаўку, калі аказалася, што два гурты з плакатаў не змогуць выступіць. Беластоцкі калектыў, які да выступаў рыхтуе Марыюш Харужы, зацікавіў як малодшую, так і старэйшую публіку.

— Штогод на музейнае мерапрыемства запрашаем зорку. Сёлета гэта гурт «Стары Ольса» з Мінска, які выступіў каля нашага музея некалькі гадоў таму. Выконвае ён даўнюю музыку. Яе цікава паслухаць аматарам мінуўшчыны і тым, якія побач эстрадных твораў любяць нешта іншае на сцэне, — заявіў дырэктар **Тамаш Ціханюк**.

— Мы прэзентуем музыку сярэднявечча. Будзе таксама сюрпрыз і выканаем некаторыя сучасныя творы, — заявілі музыкі мінскага гурта «Стары Ольса».

— Тут цікава ўсім наведвальнікам. Дзеткі цікавяцца перш за ўсё майстар-класамі, конкурсамі, лепяць з гліны, спрабуюць ткаць, а моладзь і дарослыя прыйшлі паслухаць музыку. Як бачыце, многа асоб стаіць каля палаткі, у якой Магда і Эвеліна частуюць бульбянымі стравамі — кішкай, дранікамі і іншым смакоц429. Уладзімір Ціханюк частуе каўбасой і салам, выкананымі паводле старых рэцэптаў нашых продкаў, — сказала Агнешка Ціханюк, адказная ў белмузеі за культурную дзейнасць. Разам з сяброўкай прадавала яна беларускія кніжкі, майкі з беларускімі надпісамі, макаткі, вышываныя вырабы, выкананыя на даўні лад, гаршкі з гліны і разнародныя сувеніры, выкананыя ў Гродне або на Гайнаўшчыне.

Вышываныя вырабы, між іншым ручнікі, прадавалі жанчыны з Клуба майстроў «Творчасць», што дзейнічае ў Брэсце.

— Новыя ў нас сёлета — каляровыя паясы. Мы наогул выконваем менш складаныя для вышывання вырабы, бо на даражэйшыя рэчы складана знайсці пакупнікоў. Напрыклад, кашулі шыем і вышываем толькі па заказах. Зараз дарагое ільняное палатно, якога на мужчынскую кашулю трэба многа. На такой кашулі многа вышыўкі і таму яна каштуе пад 300 долараў. Нас у клубе мала асоб, затое ў нас многа працы. На гэты фестываль прыязджаем, бо заўсёды крыху прададзім, — заявілі сяброўкі клуба «Творчасць».

— Каўбасу я рыхтаваў з сямейнікамі. Зараз мала асоб перарабляе свіное мяса ў хатніх умовах. У свініны з магазіна іншы смак і перш за ўсё склад, — сказаў Уладзімір Ціханюк, які частаваў наведвальнікаў фестывалю мяснымі прадуктамі свайго вырабу.

У сваёй палатцы працаўнікі Белавежскага нацыянальнага парку прапанавалі прыняць удзел у прыродазнаўчых конкурсах. За імі было месца, дзе Наталля Герасімюк і яе памочнікі з Фонду «Яны — гэта мы» вялі майстар-класы па тканні на кроснах. Удзельнікі гэтай гульні стараліся выткаць запланаванае. Прадаваліся там сувеніры, якія выканалі асуджаныя са Следчага ізалятара ў Гайнаўцы ды вучні і дарослыя валанцёры Фонду «Яны — гэта мы».

— Да мяне падыходзяць штораз новыя дзеткі і, сядаючы за ганчарным кругом, стараюцца вылепіць з гліны гаршчочак. Пры нагодзе я прадаю свае гліняныя вырабы — сівакі, чорны посуд, маляваныя і паліваныя збанкі. Апошнім часам паявілася мода на гліняны посуд і таму не пакідаю ганчарства, якім раней у Чорнай-Всі-Касцельнай займаліся многія жыхары, — сказаў Міраслаў Пяхоўскі з гэтага сяла.

Ткаць вучыла Ірэна Ігнацюк з Ляўкова. Да яе таксама падыходзіла многа дзяўчынак, а нават і хлопцы, якія хацелі паспрабаваць ткаць на кроснах.

— Кросны гэта вялікая прылада працы і таму хлопцам цікава паспрабаваць ткаць на іх. Я вучу ткаць палавік, які становіцца штораз больш модным, так як тканыя ўручную пакрывалы на ложкі, ці выкананыя кручком, з дадатковымі ўпрыгажэннямі, абрусы на сталы. Нашы бабулі часта выконвалі іх невялікімі, бо ложкі і сталы ў невялікіх хатах нашых продкаў былі малымі. Калі зараз я раблю вялікае, тканае даўнімі ўзорамі пакрывала, ці выконваю вялікі абрус, то яны вартыя прыблізна восемсот злотых. Можа здавацца, што гэта дорага, але каб выканаць уручную такі выраб, трэба многа напрацавацца. Апошнім часам я сваё рукадзелле прадала ў Англію, для полькі са Шлёнска, з якой скантактавалася праз інтэрнэт. Па пакупкі прыязджаюць да мяне таксама жыхары агратурыстычных кватэр, — распавядала Ірэна Ігнацюк. — Тканае рукадзелле, выкананае паводле даўніх узораў або нават новых матываў, выкарыстоўваецца не толькі ў абсталяваных на даўні лад пакоях, але таксама ў мадэрных дамах.

У адной з выставачных зал белмузея, у супрацы з Культурным цэнтрам Беларусі ў Варшаве, была адкрыта выстава «Чарнобыльскі боль», прымеркаваная да 30 гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі, якая здарылася 26 красавіка 1986 года. Экспазіцыя — гэта частка «Чарнобыльскай калекцыі» Музея старажытнабеларускай культуры Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Выстава паўстала з кадраў, зняты падчас навукова-даследчых экспедыцый супрацоўнікаў Акадэміі па чарнобыльскай зоне Беларусі. На экспазіцыі прадстаўлены, між іншым, фатаграфіі знішчаных усярэдзіне і звонку хат. На выставе паказаны таксама посуд з гэтай зоны. Задумай аўтараў экспазіцыі было, між іншым, прыцягнуць увагу да праблем наступстваў чарнобыльскай катастрофы.

Тэкст і фота Аляксея МАРОЗА

Фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА



# Пра гісторыю ў Рыгораўцах

**29** мая ў святліцы ў Рыгораўцах адбылася сустрэча, на якой ураджэнец вёскі **Яўген СЕМЯНЮК** расказаў пра гісторыю вёскі і яе Воленскага прыхода. Мерапрыемства адбывалася пад заступніцтвам настаяцеля Лявона САЕВІЧА.

Зала рыгораўскай святліцы была запоўнена ўсімі пакаленнямі рыгораўчан. На сцяне віднеліся даўнія здымкі...

— А то не Коля Стэпануоў?

— Коля.

— А то нэ Надя?

— Надя.

— А ты знаеш што я нэ віеду котора?

— О тая о!

— З которого то року?

— З сорок дэвятого або пятьдэсятого.

Спачатку вядучы спытаў:

— На сам початок пытане формальнэ: чы говорыты по-своёму, чы говорыты попуольску?

— А ўсяк понімаемо.

— Говорыэтэ по-своёму.

— По-своёму хучэй будэ і бліжэй.

— І простіей.

— Добрэ, як про сэбэ троху знаемо, про сэло, про парафію. Я до сёго спотканя прыготовуваўся досыць доўго, бо буольш як дэсять ліет інтэрэсуюсіе генеологіею, гісторыею своіеі сэм'їе, маю роспісаных буольш як восімсот чоловіек — пачаў спадар Яўген Семянюк. Працяг ягонага выступлення прадоўжу на „мове".

Спачатку хачу падзякаваць галоўным чынам людзям з Рыгораўцаў. Санька Бандарук, якога ўжо восем гадоў няма між нас, многа мне расказваў пра вайну і пра ўсе падзеі, якія тут адбываліся. Мая цёця Насця Стэпанюк многа мне расказала, і іншыя. А адносна гісторыі парафіі ў Вульцы, то я карыстаўся дакументамі. У „Бельскім Гасцінцы" было шмат напісана пра парафію ў Вульцы, пераглядаў метрыкі і гэта ўсё склалася на гісторыю Воленскай парафіі.

Мы каліс жылі ў найбольшай дзяржаве ў Еўропе, у Вялікім Княстве Літоўскім, якое расцягвалася ад мора да мора, ад Чорнага мора да Балтыкі. І нашы землі былі ахрышчаны за прыблізна сто гадоў раней, чым была ахрышчана Польшча. Сюды дайшла хрысціянская місія Кірылы і Мяфодзія са славянскімі моваі і пісьменнасцю.

Адкуль узялася Вулька-Выганоўская? Назва выводзіцца ад прозвішча Ваганоўскіх, старога рускага роду, які выводзіўся з ваколіц Бярэсця. Яны мелі тут свае ўладанні ўжо з паловы XV стагоддзя. Найстарэйшая паведка пра Рыгораўцы паведамляе, што тут жыло 27 гаспадароў. Падобна было ў Москаўцах і Іванках, якія сёння называюцца Чахамі-Забалотнымі. Чаму Рыгораўцы? Бо было прынята назваць мясцовасці ад імя таго, хто тут жыў. Маёнтак Ваганоўскіх да 1500 года быў падзелены на меншыя маёнткі. Былі маёнткі ў Падбеллі, у Студзівадах, у Круглым. Каторысь Рыгор з роду Ваганоўскіх атрымаў нашу вёску і мабыць ад яго і пайшла назва Рыгораўцы.

Найстарэйшая згадка пра царкву ў Вульцы паходзіць з каля 1500 года, дзе ёсць запіс, што Ваганоўскія ўфундавалі дзве драўляныя царквы — у Падбеллі і Вульцы-Выганоўскай. А гэта абазначае, што наша парафія вельмі даўняя — ёй больш за пяцьсот гадоў. У 1727 годзе была праведзена генеральная візітацыя віленскім біскупам, дзе пісалася, што ў Вульцы-Выганоўскай *cerkiew na górce drewniana, zbyt stara, cmentarz z parkanu ruina jest, wymienione są carskie drzwi staroświeckie ubogie, obrazy dwa wielkie Salwadora i Antoniego a moskiewskich sześć*. А гэта абазначае, што новых, лацінскіх абразоў было два, а традыцыйных, „маскоўскіх" — шэсць. І вельмі падрабязна была апісана найважнейшая ікона, якая знаходзіцца ў воленскай царкве — Ікона Багародзіцы „Знаменне". Яна ў нашай царкве з самага пачатку, перажываўшы ўсе беды, якія давялося прайсці воленскай царкве, у тым ліку і пажар.

Пасля заключэння Берасцейскай уніі воленская царква перайшла ў бок лацінскага абраду і прымянення лацінскай мовы. Прыкладам гэтаму з'яўляецца намагільнік Анны з Крупіцкіх Бабpоўскай на царкоўным пляцы. На схіле XVIII ст. Вулька належала Ігнату Бабравецкаму. Ён у 1792 годзе правёў генеральны рамонт старой царквы. Абноўлены быў дах, купал, званіца, да таго ж уласнік прыдзяліў Воленскай парафіі дзве валокі зямлі па дарозе з Вулькі ў Рыгораўцы. Былі таксама выкананы новыя царскія вароты, паралочаныя, з іконай Багародзіцы. У 1780 годзе настаяцелем воленскай царквы становіцца Кірыла Бабpоўскі, народжаны ў 1738 годзе; шляхецкі род Баброўскіх выводзіўся з ваколіц Драгічына. Кірыла Бабpоўскі вучыўся спачатку ў Кляшчэлях, а пасля ў Кіеве. Ён быў рашучым праціўнікам лацінізацыі Царквы. Калі ён паміраў, то ў тастаменце запісаў свае ашчаднасці на абнаўленне праваслаўнага характару воленскай царквы. А найбольш вядомай асобай, звязанай у Вулькай-Выганоўскай быў Міхал Бабpоўскі, сын Кірылы, славуты славіст. Вучыўся ён у Драгічыне, Беластоку, Вільні. Пасля быў выкладчыкам у замежных універсітэтах. Праславіўся ён тым, што ў 1822 годзе выявіў у бібліятэцы Супрасльскага манастыра г.зв. Супрасльскі рукапіс з пачатку X стагоддзя. Гэта найстарэйшы дакумент, які знаходзіцца на нашых землях — ён старэйшы за хроніі Кадлубка ці Гала Ананіма.

Міхал Бабpоўскі разам з братам паставілі намагільнік сваёй маці. У 1820-гадах завязваецца тут рух вяртання ў праваслаўе. І ён даволі гладка праходзіў па ўсёй Віленскай епархіі, за выключэннем Кляшчэль, дзе ўніяцкі бацюшка Антон Сасноўскі супраціўляўся пераходу ўніятаў у праваслаўе. З 1863 гадоў настаяцелем Воленскай парафіі быў Ян Врублеўскі; за той перыяд лік прыхаджан падвоіўся. Ян Врублеўскі заснаваў парафіяльныя школы — першая была ў Вульцы, пазней у Красным Сяле і Рыгораўцах. Быў праведзены чарговы рамонт воленскай царквы, і яна, абноўленая, была пасвячана 7 лістапада 1876 года.

У 1915 годзе ў выніку бежанства парафія спыніла па сутнасці сваё існаванне, бо амаль усе людзі выехалі. Розныя былі лёсы бежанцаў.

— То выехалі ўсе? — голас з залы.

— Усе.

— А будынкі асталіся?

— То ж іх не забралі з сабою.

Былі такія выпадкі, што як выязджалі ў бежанства, то нехта павесіў ножнічкі на дрэве. Вярнуліся, дрэва вырасла, а ножнічкі вісяць.

— То кажуць, што цяпер тыя ўходзьцы ідуць — то ж то тое самае, — голас з залы.

— Тое самае, толькі час інакшы, — іншы голас.

Вярнуліся людзі з бежанства — цара няма, дзяржавы даўняй няма, тут Польшча, парафія зліквідавана. У 1924 годзе з'яўляецца Польскі аўтакефальны праваслаўны касцёл. І ў той час Воленская парафія была падпарадкавана парафіі ў Кляшчэлях. Да таго ж у той час пінскі біскуп выступіў у суд, каб пераняць усе пасляўніяцкія цэрквы і перавесці іх у каталіцызм. Гэты судовы разбор доўжыўся да 1929 года, і канчаткова суд адхіліў тое хадайніцтва. У 1927 годзе ў Вульцы-Выганоўскай было дазволена адкрыць філіяльную царкву Кляшчэлеўскай парафіі. У 1934 годзе была ў Вільні абноўлена ікона „Знаменне"; яе прывезлі поездам на рыгораўскую станцыю і з вельмі ўрачыстым хрэсным ходам прынеслі ў Вульку. У 1937 годзе была ўстаноўлена ўжо цалкам асобная Воленская парафія.

4 красавіка 1937 года ўспыхнуў вялікі пажар і старая воленская царква згарэла; удалося ўратаваць некаторыя іконы, у тым ліку і тую найважнейшую — „Знаменне". Гэта вялікая і цяжкая ікона і яе выносілі дзве асобы. І адразу, у 1938 годзе, на Пакровы, быў закладзены краевугольны камень. Праект новай царквы выканаў інжынер Пётр Шульц з Паўлінова, а зацвердзіў гродзенскі біскуп Сава Саветаў. Сталі будаваць царкву, а зараз выбухла вайна, у вайну ўсе матэрыялы прапалі...

Саветы загадалі зрабіць там клуб. А людзі кажуць: „Для Вулькі клуб зробіце, а што рэшта? Дзе Рыгораўцы падзенуцца і Краснае Сяло?" І так царква асталася.

Пабудову царквы завяршылі ў 1953 годзе, а ў 1967 годзе дабудавалі званіцу. З 1981 года настаяцелем тут Лявон Саевіч.

— Я з вамі радуюся, а вы са мною мучыцеся, — зажартаваў бацюшка.

— Мы, бацюшка, будзем з Вамі да смерці.

— Цікава, да каго першая застукае.

Была пабудавана капліца ў Красным Сяле. Цяпер рыхтуецца рамонт капліцы Шульцаў у Паўлінове.

— Той Шульц што быў доктарам? — пытанне з залы.

— Не, яго бацька. А доктар то яго сын.

Найстарэйшы спіс насельнікаў Рыгораўцаў паходзіць з 1692 года. Там названа 13 сем'яў, падаткаплацельшчыкаў браньскаму старасту. У пазнейшы перыяд вёска мяняла адміністрацыйныя назвы; былі, м.інш. Грыгароўцы і Грэгароўцы. Таксама мянялася адміністрацыйная прыналежнасць: Кляшчэлі, Дубяжын, Москаўцы, Орля... Сучасныя прозвішчы былі ўведзены запар з адменай прыгону і надзелам зямельнай уласнасцю ў пачатку 1860-х гадоў. Шмат прозвішчаў з таго часу ў Рыгораўцах не захавалася, але з'явіліся новыя, у тым ліку будаўнікоў чыгуначнай лініі ці леснікоў.

Рыгораўцы выдзяляюцца на фоне суседніх мясцовасцей тым, што тут не ўжывалася г.зв. отчаства, значыць у мясцовай анамастыцы кожнага называлі разнавіднасцю яго імені. І кожны мужчына тут называўся інакш, напрыклад: Іван, Ванька, Ваня, Янэк, Ванюша, Ясько, Януш, Янцё, Іванко, Янё, Ванцік і т.п. Аляксандр: Сашко, Санёк, Шурка, Олесько, Олесь; Мікалай: Мікола, Колька, Коля, Колюсь, Колюх... Падобна называліся жанчыны, толькі тут быў іншы прынцып: калі замужняя, то прыпісвалі да мужыка, а калі самотная, то Манька, Маруся, Марыя і г.д.

Важнай падзеяй была будова Берасцейска-Граеўскай чыгункі — фрагмента большай магістралі, якая злучала Балтыку з Чорным морам. Яе 217 кіламетраў былі пабудаваны цягам трох з паловай гадоў разам з усімі станцыямі — зараз гэта здаецца неверагодным. У Брэсце быў пабудаваны цэлы пасёлак, які па сёння называецца Граеўкай.

Метрыкі паказваюць, што ў Вульцы знаходзіўся казацкі атрад, бо там шмат хто запісаны як былы вайсковец; відаць пасяліліся там людзі, якія выходзілі з войска...

**Аляксандр ВЯРБІЦКІ**




Фота з фондаў Яўгена СЕМЕНЮКА

# Пад паўстанчым крыжам


Дзеткі з „Заранкі” пад паўстанчым крыжам

4 чэрвеня ў Барсуковіне пад Крынкамі святкавалі 153 гадавіну Студзеньскага паўстання. Над паўстанчай магілай сабраліся прадстаўнікі школы, дома культуры, бібліятэкі, улады горада Крынкі, узвод пагранічнікаў і навакольныя жыхары. Магіла знаходзіцца ў бярэзніку пры польнай дарозе, на ўсходнім краі вёскі Новая Свідзялаўка. Да вялікага надмагільнага драўлянага крыжа прыбітая дошчачка з надпісам: „Божа, глянь на народ свой, нядоляй стомлены, прымі ахвяру сыноў польскай зямлі. Паўстанец Ян Клусэвіч. 25.04.1863. Крыж, сімвалізуючы доўгія стагоддзі няволі пад расейскай дзяржавай асвяціў у 1992 біскуп Эдвард Азароўскі”.

Менавіта тут мясцовы жыхар Ян Клусэвіч пільнаваў размешчаных якраз у непадалёкім урочышчы „Стажынка” паўстанчых аддзелаў. Іншы мясцовы прыхільнік расейскай дзяржавы ўлавіў іх след і паведаміў крынскія ўлады. Казакі расстралялі Клусэвіча, а цела пакінулі, каб напалохаць іншых. Жыхары Барсуковіны ўначы зрабілі дубовы крыж і патаемна пахавалі забітага.

Святкаванне традыцыйна пачалося з урачыстай імшы пад тым жа крыжам у імя „Бога, Гонару і Айчыны” і „Польшчы для палякаў”. Як сцвярджаюць мясцовыя гісторыкі, „mimo etnicznego i kulturowego zróżnicowania, Polska była tu tylko jedna” (C. Bach, *Krynki 500 lat*, 2011, s. 48).

Памаліўшыся, усклаўшы кветкі і запаліўшы зніча на магіле, усе падаліся на панадворак жыхара Барсуковіны Міраслава Кішкеля — нашчадка паўстанцаў, сэрцам аддадзенага арганізацыі гэтага мерапрыемства. Выдатна падтрымліваюць яго ў гэтым мясцовыя ўлады, але перш за ўсё жонка. Яна ўласнаручна спякла пірагі і нарыхтавала хатнюю кілбасу. Ежы хапала ўсім без выключэння ўдзельнікам мерапрыемства. Кілбаса асабліва пасмакавала ўраджэнцу непадалёкай Баратыншчыны паслу Сейма Мечыславу Башко. Для спадарства Кішкеляў паўстанчыя ўгодкі гэта сапраўдны Вялікдзень, на які з'язджаецца сям'я з найбольш аддаленых куткоў Польшчы. Наймалодшая ўнучка, якая штодзень ходзіць у школу танца, ахвотна далучылася да выступлення калектыву „Заранка”. Спадар Міраслаў вельмі цешыўся з прысутнасці менавіта гэтага калектыву. Надта расхвальваўся традыцыйнымі, мясцовымі песнямі і танцамі ў выкананні дзяцей. Бубнач і саліст калектыву — пяцікласнік Шымон Чарнецкі спяваў таксама ў час святой імшы, за што атрымаў пахвалу ад жанчын з касцельнага хору. Касцельны рэпертуар яму добра вядомы, ён жа служыць міністрантам у крынскім касцёле. Імшы, так як і рэпетыцый „Заранкі”, не прапускае.

Дырэктар крынскай бібліятэкі, а заадно гітарыст калектываў „Заранка” і „Лётасы” Пётр Звяжынскі падрыхтаваў выступленне са сваёй вучаніцай ігры на класічнай гітары Эміліяй Гудалеўскай. Іх класічна-электронны дуэт вызначыўся падборкай цікавага і вартаснага рэпертуару. Найбольш закранала сэрца песня пра недахоп міру на зямлі.

Некалькі беларускіх акцэнтаў паявілася ў выступленні калектыву „Экзіт”. Немагчыма ўжо ўявіць сабе нейкае крынскае мерапрыемства без прысутнасці жанчын з „Экзіту”. У іх даробку шмат ужо не толькі вясёлых песень, але таксама сцэнічнай вопраткі. На панадворку спадара Міраслава гулялі яны ў элегантных вышыванках — спадчыне па народным калектыве з былога дома культуры ў суседніх з Барсуковінай Гуранах. Ад пачатку да канца мерапрыемства сабраных развесялялі, і на сцэне і за багатым, гасцінным абсалютна для ўсіх сталом. У час эканамічнага крызісу спадару Кішкелю належыцца за гэта асаблівае прызнанне і падзяка. Вясёлым аказалася таксама выступленне кабарэ „На лавачцы”, які дзейнічае пры крынскім доме культуры.

Не абышлося і без патрыятычных ветэранаў з „Пагоднай восені”. У час святочнага канцэрта іх песні прагучалі першымі. На завяршэнне, да танца зайгралі сапраўдныя энтузіясты перкусіі і гітар з калектыву „Лётасы”.

Мабыць, найлепш на паўстанчым пікніку гулялі дзеці. Большасць з іх прыехала сюды на роварах альбо з роварамі. Так запрапанавала старшыня вучнёўскага спартыўнага клуба „Фенікс” Наталля Гадлеўская. Дзеткі змагаліся ў роварных кросах на пясчаных лясных дарогах. Незалежна ад вынікаў усе змагары атрымалі шмат падарункаў, фундаваных, у асноўным, Надлясніцтвам Крынкі.

Вялікай сенсацыяй аказаліся лясныя экскурсіі на сапраўдных джыпах. Маладыя джыпаўцы з Крынак і Паўднёвага Вострава — сябры спадара Міраслава — паказалі сваё майстэрства за рулём. Найбольш дзіцячага адрэналіну выклікалі гонкі на джыпах па вялікіх, пясчаных горах.

Дахаты ўдзельнікі пікніка павезлі толькі добрыя ўспаміны. Польшча спадара Міраслава аказалася гасціннай для ўсіх жыхароў Крынак і наваколля.

**Тэкст і фота Іаанны ЧАБАН**

FORWAR studio

# http://forwardfoto.by

Сітуацыя з беларускай мовай у Беларусі чым далей, тым цікавей становіцца. Прыпужаныя суседам-агрэсарам, які без аніводнага выстралу прысабечыў ладны кавалак украінскай тэрыторыі, лукашэнкаўскія ўлады не сцішылі размовы пра саюз з Расіяй, але ў той жа час больш лагодна сталі ставіцца да беларушчыны. Гэта зразумела — аддаваць прэзідэнцкую пасаду хай сабе не самай перадавой еўрапейскай краіны ўзамен на пасаду шараговага расійскага губернатара дурных няма. Але ж стаўленне большасці беларускага насельніцтва да такой ракіроўкі даволі лагоднае. Камусьці ўжо вельмі надакучыў бяззменны і разбэшчаны ўладай прэзідэнт, камусьці ён не падабаецца ад пачатку сваім грэблівым стаўленнем да ўсяго беларускага. Вось і стараецца ўлада выправіць становішча, але настолькі гэта ўсё нязграбна атрымліваецца, што калі б не любячыя беларушчыну людзі, то смеху вартыя б былі тыя спробы.

Мова жыве, калі ёю карыстаюцца ў паўсядзённым жыцці. Прычым не толькі настаўнікі, журналісты і літаратары, але і прадстаўнікі іншых прафесій, асабліва тых, якія прадугледжваюць кантакт з людзьмі. Адной з такіх прафесій з'яўляецца прафесія фатографа. У Беларусі аб беларускамоўных фотастудыях чуваць не было, пакуль у Мінску не з'явілася «Forward studio».

Сайт фотастудыі месціцца ў інтэрнэце па адрасе **http://forwardfoto.by**. Ён пабудаваны згодна сучасных трэндаў, аздоблены масай фотаздымкаў, прапаноў, выяў зробленых прац.

«Мы творчая каманда прафесіяналаў, якая любіць сваю справу, не шкадуе сваіх сіл і сродкаў для стварэння творчага прадукту. Мы не працуем за грошы, мы займаемся творчасцю і імкнёмся для добрых людзей! Звяртаючыся да нас — будзьце ўпэўнены, мы зробім для вас выдатны прадукт, чаго б нам гэта ні каштавала! Мы жадаем расці і развівацца ў сваёй творчасці, павялічваць свой узровень, і вельмі любім, калі вы прапануеце нам складаную задачу», — прэзентуюць сябе і сваю працу фатограф Канстанцін Гарэцкі, візажыст Ганна Еўлакова і рэтушор Алена Флам.

Але найбольш цікавым з'яўляецца відэаролік, які месціцца з правага боку на галоўнай старонцы, дзе гэты хлопец і дзве дзяўчыны віншуюць наведвальнікаў з днём роднай мовы 21 лютага. «Спадарства, усе мы выдатна ведаем, якая сітуацыя з роднай мовай у Беларусі — не ўсе яе дакладна ведаюць і карыстаюцца ёю штодзённа, але цікавасць да мовы ёсць! Каб паправіць такую сітуацыю, мы раім кожнаму пачынаць з сябе. Мы пачалі», — кажа Канстанцін. «І з сённяшняга дня фотастудыя Forward працуе па-беларуску», — дадае Алена Флам. Акрамя гэтага, супрацоўнікі фотастудыі абяцаюць натхніць да штодзённага карыстання беларускай мовай і наведвальнікаў. Праўда, пакуль ім гэта не надта ўдалося, зважаючы на водгукі, якія пакінулі тыя, з кім яны мелі справу. У адпаведнай рубрыцы ўсе наведвальнікі дзякуюць майстрою колеру і святла за выдатна зробленую працу выключна па-руску і нідзе не ўзгадваюць такой асаблівасці «Forward studio» як беларускамоўнасць. Гэтая акалічнасць прыводзіць да высновы, што дзякуючы такім людзям, як калектыў данай фотастудыі, беларуская мова, канешне, не загіне, але каб яна жыла паўнакроўным жыццём без дапамогі беларускіх улад, якія існуюць коштам свайго народа, не абысціся.

**Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з календара

Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара
Дата з календара

Кароткае жыццё Паўла Любецкага



## 120 гадоў з дня нараджэння
# Паўла Каравайчыка

Беларускі грамадска-культурны дзеяч, пісьменнік, медык Павал Каравайчык нарадзіўся 15 чэрвеня 1896 г. у мястэчку Любча на Навагрудчыне. Паходзіў з сям'і малазямельных сялян. Пасля заканчэння пачатковай школы паступіў у Вышэйшую пачатковую школу ў Навагрудку. У 1910 г. перайшоў у Навагрудскую прыватную рэальную школу. У 1911 г. здаў уступныя экзамены ў Мінскую гімназію, скончыў яе ў 1916 г. з залатым медалём у Маскве, куды гімназія была эвакуявана ў час Першай сусветнай вайны. Вярнуўшыся ў Мінск, актыўна ўдзельнічаў у Таварыстве дапамогі ахвярам вайны, потым паступіў у Ваенна-медыцынскую акадэмію ў Петраградзе. Ад імя петраградскіх студэнтаў вітаў у 1917 г. з'езд беларускай нацыянальнай арганізацыі ў Мінску. Аднак праз два гады змушаны перапыніць вучобу з-за матэрыяльнай нястачы. Пераехаў у Маскву, займаўся на трэцім курсе медыцынскага факультэта ўніверсітэта. У 1919-1921 гг. служыў у Чырвонай Арміі на Заходнім фронце. Пасля дэмабілізацыі вярнуўся ў Маскву, але аднавіць вучобы не ўдалося. У 1922 г. пераехаў на стала ў Мінск, паступіў на трэці курс медфака БДУ, які скончыў у 1925 г.

Пасля заканчэння гімназіі Каравайчык актыўна ўдзельнічаў у грамадска-палітычным і культурна-асветным руху. У 1917 г. працаваў у Мінску ў рэдакцыі газеты «Вольная Беларусь», дзе пачаў друкаваць свае творы. У 1918 г. у Петраградзе быў сакратаром агітацыйна-выдавецкага аддзела Беларускага нацыянальнага камітэта і супрацоўнічаў з часопісам «Чырвоны шлях». Пазней цягам больш чым года быў інфарматарам па беларускіх справах пры Народным камісарыяце нацыянальнасцей. Яго агляды беларускага друку былі своеасаблівым летапісам першых крокаў Беларускай Савецкай Рэспублікі, якія шырока выкарыстоўваюць цяперашнія гісторыкі. На пачатку 1919 г. загадваў выдавецкім аддзелам Белнацкама і рэдагаваў першую савецкую газету на беларускай мове «Дзянніца». З восені 1922 г. да канца 1926 г. загадваў аддзелам замежнага друку газеты «Савецкая Беларусь». Удзельнічаў у заснаванні медыцынскай секцыі пры Інстытуце беларускай культуры, займаўся распрацоўкай беларускай медыцынскай тэрміналогіі. Працаваў у клініцы нервовых хвароб медфака БДУ.

Павал Каравайчык у час сталінскіх рэпрэсій быў арыштаваны. Асуджаны на 5 гадоў і высланы ў красавіку 1931 г. у Чабаксары (Чувашыя). Там працаваў лекарам-неўрапатолагам. У ссылцы працягваў навуковыя даследы ў галіне медыцыны, займаўся фізіялогіяй мозгу. Перад заканчэннем тэрміну ссылкі, якую павялічылі яшчэ на два гады, Каравайчык паслаў свае даследаванні ў клініку нервовых хвароб горада Горкі, пасля чаго адтуль атрымаў запрашэнне на працу. Аднак у 1937 г., за дзень да канца высылкі, быў арыштаваны паўторна і засуджаны да расстрэлу. Расстраляны 21 лістапада 1937 г. у Чабаксарах. Рэабілітаваны па абедзвюх справах толькі ў 1957 і 1959 гг.

Творчая спадчына Паўла Каравайчыка з-за кароткага жыцця невялікая, але дастаткова разнастайная. Пачынаў ён з рэцэнзіі на пастаноўку ў Мінску драмы Янкі Купалы «Раскіданае гняздо». Пісаў водгукі на тыя творы, якія станавіліся беларускай літаратурнай класікай. Чытаў лекцыі па беларускай літаратуры на настаўніцкіх курсах у Мінску і Бабруйску. Пісаў таксама вершы. Стаў сааўтарам падручніка па беларускай народнай творчасці. У друку выступаў пад рознымі псеўданімамі — П. Каравай, Павал Любецкі ды іншымі.

**Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

## Сталяр і пячнік захоплены музыкай



**Янка Лясота** — ураджэнец Семяноўкі Нараўчанскай гміны Гайнаўскага павета. Ён вопытны сталяр (веды і практыку здабыў у прафесійнай школе ў Гайнаўцы) і пячнік. Як сам пахваліўся — пабудаваў сама меней 250 печак. Будаваў і крыў драўляныя хаты. Зараз накрывае бляхай хлеў у Масеве, а затым пачне ставіць печку ў доме музычнага кіраўніка калектыву „Нараўчанкі” Пятра Скепкі ў Гайнаўцы.

Спадар Янка таленавіты музыка. Ён іграе на акардэоне з маладых гадоў свайго жыцця. Яго запаланіў свет музыкі. У ягонай сям’і на акардэоне іграў старэйшы брат Мікалай. Брат вучыўся іграць на акардэоне ў вядомых тут ва ўсёй шырокай ваколіцы музыкантаў Лукшаў. Потым яго запрашалі іграць на вясковых вяселлях.

Янка чакаў зручнага моманту, калі мог узяць у рукі братаў інструмент (купілі яго, калі прадалі карову). Часта здаралася гэта тады, калі бацька і брат ехалі ў лес па дровы. Янка сядаў іграць, як кажуць, са слыху. Хутка асвойваў пачутыя раней па радыё або на танцавальных забавах песні і мелодыі. Аднойчы Янка не чуў, калі бацька і брат вярнуліся з лесу. Так быў захоплены ігрой, што забыў пра ўсё на свеце. Кары не было. Бацька нават пахваліў: „Ты іграў лепш чымсьці Мікалай”.

Час бяжыць. Янка і яго сябра Рышард Казбярук (ён таксама з Семяноўкі) іграюць на вяселлях і на дажынках у вёсках Нараўчанскай, Міхалоўскай і Чаромхаўскай гмін. Незабыўныя танцы ладзілі, між іншым, у Масеве (з гэтай вёскі Янка мае жонку Аляксандру), Баб’яй Гары, Сушчы, Адрынках ды на калёніі Ахрымоў — Бачынскіх. У Бачынскіх ігралі ў 1961 годзе. Бывала, што ў Масеве хлопцы так часта ладзілі забавы, што семяноўскія музыканты не забіралі з сабой дадому акардэонаў. Музыканты прыдбалі сабе памочнікаў — ахвотных бубніць на бубне або скрыпача і гітарыста.

Хто ж з нас не любіць слухаць музыкі ды яшчэ такой, пры якой хочацца танцаваць. Іграюць семяноўскія музыкі папулярныя рускія, беларускія і польскія мелодыі. Пачыналі ад польскіх песень „Jak dobrze rano wstać”, „Zgubiona miłość” і „Kolorowe jarmarki”. Рэпертуар у іх багаты. Рэдка калі паўтараюць тую самую мелодыю. Янка Лясота пахваліўся — у яго тры акардэоны. Ганарыцца адным з італьянскай назвай „Cantulia” на 96 басаў.

Ад нядаўна Янка Лясота і Рышард Казбярук іграюць у інструментальна-песенным калектыве „Нараўчанкі”. Гэта пачалося з мерапрыемства ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы. Ладзілі вясельны абрад і іх Галена Рэент (дырэктарка Гміннага асяродка культуры ў Нараўцы) і Вольга Савіцкая з мастацкага калектыву запрасілі выступіць. Цікава было. Як на сапраўдным вяселлі. Семяноўскія артысты-аматары ігралі вясельныя маршы і спявалі. Цяпер разам з „Нараўчанкамі” рыхтуюцца да першых сёлетніх народных беларускіх фэстаў і будзе іх шмат. Мой субяседнік Янка кажа, што яму вельмі цікава пабываць сярод людзей ды — як кажа — чалавек свету пабачыць.

**Тэкст і фота Янка ЦЕЛУШЭЦКІ**



## ЗАПРАШЭННЕ

Аб’яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-Бы

**“Пагаворым пра тутэйшасць”**

сустрэча з **Кацярынай і Паўлам Вінярскімі з Народнага ўніверсітэта імя Я.Ю.Ліпскага ў Тэрэмісках.**

17.06.2016 (пятніца) 17.00

*Склеп з культурай Аб’яднання АБ-БА*
*вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

## Дзень маці ў Чаромсе



Фота Тамары Навіцкай

**Дзень маці** — цыклічная імпрэза ў календары культурных мерапрыемстваў Чаромхаўскага цэнтра культуры. Сёлета святкаванні адбыліся ў суботу 28 траўня, а суарганізатарам імпрэзы выступіла раённае аддзяленне Саюза польскіх пенсіянераў і інвалідаў. У сустрэчы ўдзельнічалі войт гміны Міхал Врублеўскі, настаяцель мясцовага праваслаўнага прыхода а. Юры Пліс, старшыня ПСПіІ Мікалай Янчук і амаль шэсцьдзясят членаў кола сеніёраў. Пачастунак у выглядзе ласункаў, фруктаў, напіткаў (кава і гарбата) забяспечылі арганізатары. «Градусныя» напоі і дамашняга вырабу смакоцці прынеслі ва ўласных кошычках самі ўдзельнікі. У мастацкай частцы выступіў маладзёжны калектыў духавых інструментаў пад кіраўніцтвам капельмайстра Мікалая Гарадкевіча. Застоллю спадароднічалі спевы ды танцы пад гукі гармоніка Мікалая Вашчука. З дыскаполевай музыкай сёлета атрымалася асечка. Гукаўзмацняльная тэхніка барахліла, што перашкаджала аматарам танцаў. Аднак удзельнікам сустрэчы, якія на адвячорку каля 20 гадзіны разышліся дамоў, не ўменшыла гэта святочнага настрою і сяброўскай атмасферы. **(ус)**

## Беларускі фэст у Лешуках

У нядзелю, **19 чэрвеня г.г.**, Музей і асяродак беларускай культуры ў Гайнаўцы ды Гмінная ўправа і Гмінны асяродак культуры ў Нараўцы запрашаюць на беларускі фэст у Лешуках Нараўчанскай гміны. На сцэне выступяць вакальна-інструментальныя калектывы з Гарадка, Нараўкі, Нарвы і Гайнаўкі. Можна будзе купіць беларускія кніжкі і газеты ды вырабы народных умельцаў. Пачатак мерапрыемства а 16-й гадзіне. **(яц)**

## 19.06 — 25.06

**(22.03. — 20.04.)** Не стаў усяго на адну карту. Не слухай падшэптаў досыць злоснай і выбуховай планеты! Удалыя выезды і кампанейскія сустрэчы. Баран з другой дэкады знаку: ці не пара ўсё яшчэ пытацца «а што чуваць у майго былога?». На працы можаш шмат здабыць: бярыся за новыя праекты, нават калі не адчуваеш сябе ў сіле. Вельмі дбай аб сваю пячонку.

**(21.04. — 21.05.)** Прыбяры непатрэбшчыну ў хаце, асабліва калі плануеш купіць новую мэблю. Больш адвагі на працы, не дай сябе закрычаць менш здольным, але затое нахабным; не ўваходзь з імі ў дыскусію, толькі валі рубам раз ды добра. У справах, якія патрабуюць супрацы, ясна акрэслі межы свае і іншых. Азірайся на кашалёк, бо варта запланаваць грошы на канікулы.

**(22.05. — 22.06.)** 19-23.06. вельмі пільнуйся, бо можаш стаць ахвярай падману! 21-25.06. будзеш поўны боязі, апасак, сумненняў, пачуцця няўпэўненасці або страху. Дасі рады! Ты майстар у выхадзе з безнадзейных сітуацый, дык не будзе горш. Фінансы ўтрымаеш у раўнавазе — не страціш больш чым звычайна. Схадзі на танцы, пазнаёмішся з кімсьці файным.

**(23.06. — 23.07.)** Свет пачне круціцца ў тваю карысць, людзі будуць цябе любіць і паважаць. Пацягнуцца да цябе рамантыкі. Але не прапускай інфармацый, дзе б можна было спаткацца з цікавымі людзьмі. Прыліў энергіі і аптымізму (Рак з першай дэкады можа цудоўна паздаравець!). Спрэчкі могуць закончыцца проста камічна. Але 21-25.06. адно тваё слова можа выклікаць сямейны скандал.

**(24.07. — 23.08.)** Адкрыйся на новы досвед, задбай аб уласны развой і псіхічны камфорт. Добрыя весткі для Львоў чакаючых кахання. Не параўноўвайся з іншымі, дацані тое, што маеш. Прыцягнеш багатых і шчодрых асоб, якія могуць падтрымаць твае задумы. Але пасля 20.06. будзеш мець менш энергіі, спавальні тэмп, адпачывай, пільнуй сягонняшняга дня, смакуй моманты.

**(24.08. — 23.09.)** Могуць паявіцца доўгачаканыя нагоды. Дзеў у парах чакаюць вельмі мілыя часіны. На працы будзь актыўным, не абміне цябе поспех. Не павучай. У выпадку інвеставання стаў на толк і памяркоўнасць, не на эмоцыі. 19-25.06. могуць прытрапіцца табе нейкія нявыгадныя лады. Паміж 21 і 25.06. не ляпай языком, бо моцна можаш сабе зашкодзіць.

**(24.09. — 23.10.)** Твая інтуіцыя цябе не падвядзе. Міла дома. На рабоце варта адпачыць хоць пару дзянькоў, бо твае батарэйкі разрадзіліся. Калі не зможаш куды-небудзь з’ехаць, справы фірмы пакідай за дзвярыма. Тым больш не бяры работы, каб канчаць яе ноччу. Старайся пабыць на прыродзе, займіся гімнастыкай.

**(24.10. — 22.11.)** Удачы, асабліва ў плане пачуццяў. Будзеш прыцягваць да сябе прыхільнікаў. Змагайся з тым у сабе, чаго не пераносіш у іншых — добра гэта абдумай. Скарпіён народжаны ў кастрычніку няхай пільнуецца на дарозе і пры вострых рэчах. 21-25.06. не прабуй намотваць ніякіх інтрыг!

**(23.11. — 22.12.)** 18-22.06. магчымыя цяжкасці ў паразуменні з атачэннем, а 19-23.06. могуць выявіцца твае недахопы і занядбанні. Калі будзеш усё бачыць у чорным колеры, нават не выходзь з хаты — сябры не памогуць, а ты іх яшчэ можаш заразіць хандрой! Вельмі глядзі на тое, як харчуешся, палячы свае зубы.

**(23.12. — 20.01.)** Сплывуць на цябе прапановы выездаў, паявяцца шанцы наладжання інтрыгуючага знаёмства. Калі думаеш аб змене кватэры ці дома, пераглядвай аб’явы. Калі не ўдалося аформіць нейкай справы ва ўстанове, не драматызуй — час спрацуе ў тваю карысць — можа зменяцца правілы або асоба, якая іх інтэрпрэтуе. Схадзі да акуліста.

**(21.01. — 19.02.)** 18-19.06. не папсуй чагосьці, што так доўга будаваў. Не спавальняй спраў, якія трэба аформіць, нават калі выглядае на тое, што могуць не ўдацца. На працы дзейнічай лагодна, угаворам, асабліва калі ты шэф. Вадалеі, якія шукаюць працы, будуць мець шмат прапаноў — толькі паспявайце на кваліфікацыйныя размовы! Схадзі да сямейнага лекара, не адмаўляйся ад спецыялістычных абследаванняў.

**(20.02. — 21.03.)** 19-23.06. зоркі замуцяць табе ў галаве — лепш цяпер не вырашай важнага. Спакойна — пасля 20.06. большасць праблем развяжацца без твайго ўдзелу. Разлічвай на мілыя сюрпрызы ад лёсу, вялікае каханне, і нават выйгрыш у латарэю! Але не давярай людзям, на якіх ужо раз апарыўся.

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

## Адгаданка Адгаданка Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. Лаўрэнцій (1900-1953), галоўны савецкі энкавэдыст = 5 _ 12 _ 32 _ 16 _ 30 _;
2. дробны паразіт чалавека і жывёл = 13 _ 33 _ 4 _;
3. запруда = 31 _ 11 _ 24 _ 25 _;
4. трэці гук музычнай гамы = 19 _ 21 _;
5. задні бок тулава чалавека = 3 _ 1 _ 2 _ 17 _ 18 _;
6. расійскі алімпійскі курорт = 9 _ 14 _ 22 _ 23 _;
7. плесневы налёт ад гніення = 7 _ 10 _ 6 _ 20 _ 8 _;
8. не ўласны, не свой, не родны = 26 _ 27 _ 28 _ 29 _;
9. кукіш у ... шышцы = 34 _ 35 _ 15 _.

(ш)

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | 3 | 4 | | 5 | 6 | 7 | 8 |
| | | 9 | 10 | 11 | 12 | | 13 | 14 | 15 | 16 |
| | 17 | 18 | 19 | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | 31 | 32 | 33 | 34 | 35 |

**Адказ на адгаданку з 22 нумара**

Маўчун, Мюнхен, жабо, Воўпа, Алімп, Саколка, Ван, груша, таўкач, рыба, мазь, Цвейг.

Рашэнне: **Чужое хвалі, а свайго ў гразь не тапчы**.

Кніжную ўзнагароду высылаем **Анне Дэм’янюк** з Бельска-Падляшскага.

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714
**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва”.
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі”:** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk”, Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy” prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH” na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH”), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA” oraz „GARMOND PRESS”, siedziba redakcji „Niwy”.
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA”, „KOLPORTER”, „RUCH” — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy” — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER” na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.
**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa”,**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945
**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (47)

Гэты сабача-людскі расказ я пачула на прыпынку ў Дубровіцы. Аўтобус з Роўна, які ехаў ажно ў мястэчка Нобель, што ля беларускай мяжы, моцна спазняўся. З неба імжыў дождж і пахла растоптаным чарвяком. Аднак народ не падаваў віду, што яго нешта злосціць, быццам спазненні былі тут звычайнай, штодзённай справай.

— Каб толькі прыехаў! — паўтаралі.

Вера і ўпэўненасць, што ўсё будзе добра, здавалася бясспрэчнай. Гэта падымала на духу, абнадзейвала. Раптам на прыпынак забеглі тры худыя дварнякі. Адзін кульгаў і меў свежыя раны на жываце. Безгаспадарны сабака звычайна наклікае жах і агіду, мала дзе зродзіцца шкадаванне. На прыпынку быццам іх не прыкмецілі. Усе пра нешта гаварылі, абмяркоўвалі. Аднак — не! Сялянка, якая жавала духмяны піражок з грыбамі, адняла яду ад вуснаў і кінула параненаму сабаку. Ён, як самы слабы і пакрыўджаны ў зграі, патрабаваў найбольш дапамогі. Жанчына не прадбачыла, што яе добры ўчынак мог яшчэ больш пашкодзіць кульгаваму бадзягу. Аднак хлапец у вайсковай форме, які разам чакаў аўтобуса, відавочна прайшоў вышэйшыя курсы лагістыкі, уміг ацаніў усё здарэнне. Каб пазбегчы грызні паміж сабарнёй, ён дабыў з сумкі свой элегантна загорнуты бутэрброд, раздзяліў яго на дзве часткі і кінуў апошнім дварнякам. Уся аперацыя прайшла мігам і быццам па-за ўвагай пасажыраў. Я аднак з любоўю зірнула на добрую цётку і разумнага вайскоўца, які пасля свайго ўчынку яшчэ больш падрос і пахарашэў у маіх вачах.

Старая паляшучка праз скуру адчула добрую энергетыку. Яна паківала ў мой бок галавой і адказала:

— Сабака больш ведае як чалавек!

У такіх дзівосных абставінах я пазнаёмілася з Оляй.



* * *

Оля вярталася ад дачкі з Дубровіцы. Сама яна жыла ў сяле ля Скварыцэвіч, вядомага з-за архаічнага абраду куста, які спраўляюць на Тройцу. Жанчына прыналежала катэгорыі людзей „свойскай гадоўлі”. Хоць выправілася ў горад, на галаве мела зялёна-ружовую хустку, у руках трымала карзінку з лазы, у якой пішчалі маладыя індыкі. Да поўнага этнакасцюма не хапала адных лапцяў і вышыванкі. Я спытала, колькі ёй будзе гадоў.

— А на колькі выглядаю? — пачулася ў адказ.

Акрэсліць узрост вясковай жанчыны рызыкоўна і заўсёды складана. Оля са сваім цёплым, маршчаным тварам і недахопам пярэдніх зубоў напамінала старэйшых вясковых людзей з мінулых часоў, якія ўжо пасля трыццаткі здаваліся старэчамі. Я сама адчувала сябе пры ёй як дачка пры маці.

— За год мне споўніцца ўжо 50 гадоў, — Оля выручыла мяне ад клапатлівага пытання. Мы згаварыліся пра сем'і ды пагутарылі на тэмы: *пра дзяцей, ці муж не п'е, пра работу і заробкі*...

З усёй інфармацыі мая субяседніца палічыла найважнейшымі замужжы і пабольшанне сям'і. Яна хвілінку падумала, а пасля з мацярынскім клопатам у галасе параіла мне:

— Вам трэба *доньку* замуж выдаць! За добрага хлопца!

Оля, хоць была за мяне малодшай, была ўжо шчаслівай бабуляй. Яна пералічыла імёны сваіх сямі ўнукаў: Кірыл, Тарас, Іван, Максім, Дыяна, Юля, Руслана.

Дзеці раз'ехаліся па цэлай Украіне. У той дачкі, што жыве ў Дубровіцы, рэзка панізілася зарплата. Зяць таксама слабавата зарабляе. Ледзь удаецца ім зводзіць канцы з канцамі. Олі найбольш шкада ўнучак: ці ж яны бедныя вінаватыя, што ў краіне вайна. Дык за ашчаджаныя грошы, якія сялянка зарабіла на продажы журавіны, яна купіла басаножкі дзяўчынкам, бо не магла глядзець, як любыя дзеткі лётаюць у парваных ботах.

Оля працавала ў калгасе. Тады на ўсё хапала. Дзеці паехалі вучыцца ў гарады, прыжыліся на новым месцы, пажаніліся. Калі раскінулі іх калгас, разам з мужам паехалі на заробак у Польшчу. Працавалі ў цяпліцах пры агурках і памідорах. Ад ранна да ночы, як чорныя жукі. За зробленыя грошы набылі старыя сельскагаспадарчыя машыны і сталі памалу гаспадарыць. Зараз у іх пяць гектараў зямлі і работы хоць адбаўляй. Ці не сумуе па калгаснай мінуўшчыне, калі працу і жыццё арганізавалі іншыя?

— Крый пане Божа! — Оля здзіўляецца пытанню. — Зараз у нас свае прадукты і свае зaняткі! З таго, што вырасце ў полі і хляве, яшчэ гарадскім дзецям дапамагаем.





* * *

Пасля таго, як падкормленая сабачая зграя паляцела сваёй дарогай, Оля расказала пра разумную Жучку. Хоць свой аповед жанчына накіравала ў мой адрас, на прыпынку прыціхлі размовы. Пасажыры навастрылі вушы, каб не прапусціць ніводнага моманту з сабачай гісторыі. Оля ведала як прыхарошыць аповед.

— Гэта было восем гадоў таму назад, якраз старэйшая дачка выходзіла замуж. Аднойчы мой *чалавек* з сынам паехалі касіць траву пад лесам. Ішоў дождж і яны нічога не прыкмецілі. Скасілі і годзе, задаволены. А калі згасілі трактар, сярод пакосаў пачулася жаласнае скавытанне. Бягом кінуліся ў той бок. Спачатку яны меркавалі, што нейкая казуля папала пад касу касілкі. Але ж на месцы пабачылі іншае... і ажно здранцвелі. Сярод пакосаў ляжала любімая Жучка. Старая сука прыбегла ім услед, ніхто яе раней не прыкмеціў. А зараз яна канала ў муках, з разрэзанага жывата наверх выйшлі кішкі. Муж ужо хацеў дабіць, каб жывёліна не цярпела. Але ж такога не зробіш на вачах дзіцяці. Яны загарнулі суку ў кашулю, занеслі на сухі груд і вярнуліся дамоў. Раніцай дзеці пабеглі праверыць. Сука ляжала сярод кустоў. Яна напілася вады і заснула. Дзеці прыходзілі кожны дзень, насілі яду і пітво. Але не было надзеі, што яна выліжацца з ран. Пасля двух тыдняў яна дзесьці прапала. Падумалі: здохла і крукі расцягнулі. А як жа мы яе шкадавалі! Загадаеш: запыні авечак, яна зразумее, запыніць. Калі які дрэнны чалавек ці злодзей заходзіў на двор, Жучка брахала, ажно ў другім сяле чулі... Ну так ужо шкадавалі і плакалі па ёй, быццам хто ў сям'і памёр.

Мінулі чатыры месяцы. Восенню ў старэйшай дачкі спраўлялі вяселле. Ужо маладыя прыехалі з вянцу і ідуць у хату, дзе мы з хлебам і соллю чакалі. Мы павіталіся, сказалі што трэба і бачым цуд. Ад лесу Жучка бяжыць! Ах, Божа, якое тады было шчасце, вяселле. Вяртанне сучкі палічылі добрым знакам. Усе яе лашчылі, хацелі яе накарміць найлепшымі прысмакамі. Гэта было такое адчуванне, быццам найдаражэйшы госць завітаў на вяселле. Адкуль яна з'явілася? Адкуль ведала, што ў дачкі вяселле?

— І што, — пытаю ў Олі, — яна пасля вяселля зноў прапала? — Сабачы аповед пахнеў для мяне пушчанскай палескай метафізікай.

— Дык не, засталася жыць з намі. Гэта была старая сука і яна пражыла яшчэ пяць гадоў. Найгорш, што з-за пройдзенай катастрофы, яна не магла ўжо мецъ шчанят. А пасля, калі яна зышла на той свет, мы ўзялі ад людзей шчаня, якраз ад дачкі нашай Жучкі. Яна таксама завецца Жучка. Вось і купіла для яе гэтых індыкоў, — Оля з чуласцю зірнула на брыдкія і пісклівыя птушаняты ў лазовай карзінцы, — каб наша Жучка мела разрыўку, каб іх пільнавала перад лісам і каршунамі...

(працяг будзе)

Тэкст і фота Ганны КАНДРАЦЮК

ISSN 0546-1960